# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў"
і Грамадскай арганізацыі "Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"

## ЗМЕСТ



• № 1–2 (49–50) • СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,
Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**рэпрадукцыя плаката выстаўкі “Беларускія іконы”,
якая з поспехам экспанавалася ў Іспаніі
Да 2000-годдзя хрысціянства.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА “МАБ”, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **350 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**






*Джон Бэзіл (Калумбія, ЗША)*

# РАСІЙСКАЯ ДУМА, РЭЛІГІЙНАЯ ТАЛЕРАНТНАСЦЬ І БЕЛАРУСКІЯ ГУБЕРНІ Ў 1905–1914 гг.

**Джон Бэзіл** — прафесар універсітэта Паўднёвай Караліны. У аснову артыкула пакладзены даклад амерыканскага вучонага на адным з кангрэсаў у Польшчы.

Найчасцей журналісты і гісторыкі ўспрымаюць як бясспрэчны той факт, што і пасля рэвалюцыі 1905 г. значных зменаў у царскай палітыцы агрэсіўнай русіфікацыі не адбылося. Доўгі час лічылася, што ў перыяд з 1905 г. да пачатку вайны ў 1914 г. імперскі ўрад і Святы Сінод у Санкт-Пецярбургу па-ранейшаму кіраваліся мэтай — любымі сродкамі зменшыць супраціў расійскаму кантролю на Захадзе. Дзеля таго, каб прытрымліваццца такога меркавання, ёсць шмат падстаў. Незалежнасць Польшчы пасля 1905 г. была канчаткова зруйнавана. Шчыра і па-сапраўднаму спрыялі ажыццяўленню задумы аб г. зв. чацвёртым падзеле Польшчы праваслаўная царква і дэпутаты Дзяржаўнай думы. Аднак тады ж яўрэі здабылі, хаця і нязначную, магчымасць выезду за межы рысы аселасці; праўда, жыццё ў іх зрабілася больш неспакойным з-за сталай пагрозы пагромаў. Рэлігійныя і палітычныя абмежаванні стрымлівалі і народы балтыйскіх рэгіёнаў, што выявіла, напрыклад, выказаная праваслаўным Сінодам вострая крытыка ў адрас Усерасійскага евангельскага лютэранскага камітэта. Як паказвае аналіз, у той ці іншай форме захоўваць ранейшую тактыку спрабавалі ў Расіі ўсе палітычныя групоўкі — ад левага крыла кадэтаў да крайніх чарнасоценных элементаў на правым флангу расійскай палітыкі, за невялікім выключэннем групы сацыял-дэмакратаў. У тых, хто варагаваў у халоднай вайне, агульнага было мала, хіба згода ў гэтым пытанні аб'ядноўвала іх. Гэтай навуковай тэмай займаліся ў розныя часы, напрыклад, дасведчаны савецкі гісторык А. Я. Аўрэх, амерыканец Эдвард К. Сэйдэн і амерыканец польскага паходжання Эдвард Хмялеўскі.

Нягледзячы на тое, што навуковыя тлумачэнні, якія ўсе яны даюць, маюць рэальную вагу і, безумоўна, небеспадстаўныя, іншыя вучоныя з-за гэтага не могуць паглядзець на з'яву шырэй — і паставіць пад сумленне праўдзівасць створанай раней карціны. Так, яны пазбягаюць разгляду спрэчак, што ў 1907–1912 гг. разгарнуліся ў Дзяржаўнай думе — вакол заканадаўчага ўрэгулявання справы рэлігійнай талерантнасці ва ўсёй Расійскай імперыі. Пачынаючы з канца XIX ст., абмеркаванне гэтага заканадаўства ў вялікай меры спарадзіла развіццё інтэлектуальных напрамкаў, папулярных сярод адукаваных расіян, і

калі б цар прыняў да ведама толькі малую частку прапаноў, ухваленых Думай, дык наўрад ці на заходніх межах можна было б рэалізоўваць ранейшыя задумы ўрада. Гэтыя прапановы не ўваходзілі адно ў групу нерэалістычных лозунгаў нешматлікіх апантаных радыкалаў з левага крыла дэпутатаў Думы. Яшчэ ў 1890 гг. рух за рэлігійную талерантнасць знайшоў прыхільнікаў сярод уплывовых імперскіх чыноўнікаў, атрымаў блаславенне сталічнага царкоўнага іерарха Антонія Санкт-Пецярбургскага, з яго існаваннем пагадзіўся сам Мікалай II, калі ў 1890 г. выдаў указ, якім вызваляў праваслаўную царкву ад любой дзейнасці, шкоднай багаслужбе і спавяданню неправаслаўных веравызнанняў. На гэтым фоне даўнейшыя тлумачэнні патрабуюць пэўнага пераасэнсавання.



*Помнік св. Кірылу Тураўскаму ў Тураве.*
*Фота Андрэя Котлярчука (Бранск, Расія)*

У 1907 г. у Думе з'явіўся праект урадавага заканадаўства, прысвечаны новаму ўрэгуляванню справы рэлігійнай талерантнасці ў Расіі, і ў маі 1909 г. ён, прайшоўшы нялёгкі шлях праз розныя камісіі, набраў неабходную для абмеркавання сваіх вартасцей колькасць галасоў. Як вядома, поўны праект закона "Аб свабодзе сумлення" складаўся з большага ліку артыкулаў. У іх пунктах і параграфах былі вызначаны і стаўленне да шлюбаў паміж людзьмі рознага веравызнання, і пытанні будаўніцтва ў імперыі рымска-каталіцкіх кляштараў. Але нас цікавяць толькі два пытанні: аб законным (да 1905 г. вельмі абмежаваным) праве падданых Расійскай імперыі беспакарана пераходзіць з адной рэлігійнай канфесіі ў іншую і аб законным праве сходаў, на якіх вернікі па-за дакладна вызначанымі межамі сваёй абшчыны прапаведуюць неправаслаўныя догматы (практыка, да рэвалюцыі 1905 г. сурова забароненая). У час абмеркавання гэтых артыкулаў думскія дэпутаты самі хутка падзяліліся на два процілеглыя лагеры, з невялікай перавагай тых, хто выказваўся ў карысць дазволу найбольшай рэлігійнай свабоды і супрацьстаяў тым, хто абгрунтоўваў дазвол свабоды абмежаванай. Свае дэбаты Дума закончыла так: па асноўных пытаннях левая і цэнтрысцкая большасць дасягнулі прынцыповай згоды, але наконт права вета Дзяржаўны савет выказаўся ўсё ж у карысць меншасці. У выніку ўвесь дасягнуты ў галіне рэлігійнай талерантнасці прагрэс быў зведзены на нішто.

Дзеянні Думы, накіраваныя на тое, каб забяспечыць права грамадзян Расійскай імперыі свабодна мяняць рэлігійную канфесію, аказаліся марнымі,

аднак здзіўляе, наколькі далёка нават кансерватыўныя расіяне адышлі ад свайго дарэвалюцыйнага ўяўлення аб русіфікацыі. Паслядоўнымі прыхільнікамі новых зменаў былі сацыял-дэмакраты, акцябрысты і кадэты; трэба пагадзіцца таксама з тым, што да ранейшых шляхоў не хацелі вяртацца ні Святы Сінод, ні імперскі ўрад. Іх супраціў рэлігійнай талерантнасці быў абмежаваны. Паводле слоў епіскапа Яўлогія, ад Думы патрабавалася проста даць праваслаўнай царкве і цару пэўныя гарантыі: што людзі, якія хочуць адысці ад праваслаўя, мусяць спачатку выслухаць казанне святара і што іх колькасць абмяжоўваюць сем'і, у якіх бліжэйшыя продкі мелі моцныя каталіцкія, лютэранскія або яўрэйскія карані. Карацей кажучы, кансерватыўны ўрад гатовы быў дазволіць пераход у іншае веравызнанне, але вырашыў прадухіліць масавы адыход ад праваслаўнай веры. Гэтыя меры могуць падацца непрагрэсіўнымі з пункту гледжання сучаснага грамадства, але яны, вядома ж, вельмі кантраставалі з дарэвалюцыйнай практыкай, што падштурхоўвала імперскі ўрад вяртаць неправаслаўных вернікаў у лона праваслаўнай царквы прымусова.

Іншы важны аспект новага заканадаўства, прысвечанага рэлігійнай талерантнасці, які абмяркоўвала ў тыя дні Дума, датычыўся таго, каб дазволіць неправаслаўным рэлігійным групам у межах Расійскай імперыі вывучаць свае догматы, гэта выклікала нават большыя спрэчкі, чым прапанова аб змене веравызнання. Зноў цэнтрысцкі блок Думы і, безумоўна, яе левае крыло вырашылі зняць усе абмежаванні на тое, каб займацца рэлігійнай прапагандай, і зноў Святы Сінод і ўрад захацелі прадугледзець пэўныя абмежаванні. Дарэчы, Сінод назваў і прычыну, паводле якой замінаў развіццю таго варыянта пастановы, што прапаноўвала думская большасць. Епіскапы выступалі за дазвол вывучэння неправаслаўных рэлігійных догматаў, аднак толькі ў спецыяльна адведзеных дзеля гэтага месцах: рэлігійных школах, цэрквах, прыватных дамах або на могілках. Пакуль Расія заставалася праваслаўнай дзяржавай, выключнае права неабмежаванага новага звароту вернікаў належала праваслаўнай царкве; Святы Сінод вырашыў і надалей захоўваць такую моцную сувязь паміж царквой і дзяржавай. Зноў, як і тады, калі спрачаліся аб праве змены рэлігійнага веравызнання, толькі цяпер, з сучаснага пункту гледжання, Сінод не выяўляў асаблівай талерантнас-



*Скульптурная выява св. Іаана Хрысціцеля (XVIII ст.). Беларуская школа (?). Калужскі абласны мастацкі музей. Фота Андрэя Котлярчука (Бранск, Расія)*

ці, і гэта абумовіла той факт, што неўзабаве дарэвалюцыйную русіфікацыйную палітыку пачалі звязваць з імем Канстанціна Пабеданосцава.

Адукаваныя расіяне, чыя дзейнасць разгортвалася ў царкве, ва ўрадзе або ў Думе, усё ж кіраваліся новымі ўяўленнямі, якія супярэчылі ранейшым.

Як вядома, плённая дыскусія вакол праблемы рэлігійнай талерантнасці распачалася ў пару заняпаду імперыі: у 1914 г. царскі урад аб'явіў вайну Германіі, а ў 1917 г. бальшавікі абвясцілі рэлігійныя перакананні разам з нацыянальнымі рухамі агіднымі буржуазнымі перажыткамі, якія трэба знішчыць "назаўсёды". Гэтае "назаўсёды" цягнулася, як высветлілася, семдзесят тры гады, і цяпер народы былога СССР могуць свабодна карыстацца вынікамі працы, праробленай Думай яшчэ у маі 1909 г.

*Пераклад з англійскай мовы* ***Святланы Сачанкі***

*Крысціна Лапіч (Мінск)*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ І РЭЛІГІЯ

**Крысціна Лапіч** — кандыдат сацыялагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці, якое назіраецца сёння ў Беларусі, імкненне беларусаў да сваіх каранёў вельмі востра ставяць пытанне аб неабходнасці глыбокага вывучэння культурнай спадчыны народа. Яна не з'яўляецца чымсьці застылым і абмежаваным толькі ўнутраным патэнцыялам. Кожная нацыянальная культура — гэта сінтэз лепшых дасягненняў усіх нацыянальных культур. Улічваючы важнасць іх узаемаўзбагачэння, можна сцвярджаць, што духоўныя асновы нацыянальнай самасвядомасці ўключаюць у сябе як культурную спадчыну кожнай нацыі ў якасці крыніцы іх далейшага развіцця, так і духоўныя каштоўнасці народаў свету, культурны абмен паміж нацыямі і народнасцямі як фактар фарміравання і развіцця нацыянальных культур.

Вынікі сацыялагічнага даследавання, якое праводзілася сярод студэнтаў кафедрай сацыялогіі Белдзяржуніверсітэта на працягу 1997–1998 гг., сведчаць, што, згодна з думкай большасці апытаных студэнтаў (72,3 %), на развіццё беларускай культуры найбольш паўплывалі культуры трох славянскіх народаў — рускіх, палякаў, украінцаў.

Нацыянальная культура сваімі каранямі ідзе ў глыбіню жыцця народа, які з'яўляецца адзіным захавальнікам і носьбітам нацыянальнай адметнасці. Народны патэнцыял заўсёды быў і будзе галоўнай крыніцай фарміравання і развіцця нацый і народнасцей, іх культуры і самасвядомасці. Згубіўшы незалежнасць і культурную самабытнасць, народ не здольны не толькі штосьці даць іншым народам, але і не можа далей існаваць як нацыя ці народнасць.

Нацыянальная культура ўяўляе сабой складаную цэльную сістэму матэрыяльных і духоўных элементаў: прылады і прадукты працы, вобраз жыцця і

тыпы паводзін, рытуалы, сімвалы, міфы, маральныя нормы і г. д. Адным з важнейшых кампанентаў культуры з’яўляецца рэлігія. Калі ўгледзецца ў гісторыю чалавецтва, то бачна, што кожная нацыянальная культура створана, па-першае, з этнічнай традыцыі (фальклор, звычаі і г. д.), па-другое, “прыладай” для стварэння любой нацыянальнай культуры выступае мова, якая з’яўляецца візітнай карткай кожнай нацыянальнай культуры, па-трэцяе, нацыянальныя культуры ствараліся найперш у рэлігійных цэнтрах — манастырах, храмах і г. д. Яркім прыкладам таму з’яўляецца асветніцкая дзейнасць беларускай святой Ефрасінні Полацкай, якая заснавала ў Полацку жаночы і мужчынскі манастыры, дзе адчыніла скрыпторыі — майстэрні па перапісванню кніг, а таксама школы, дзе дзеці авалодвалі граматай, вывучалі гісторыю, грэчаскую і царкоўнаславянскую мовы, спасцігалі навуку красамоўства.


Беларуска иконопис Ефросина Полацка

*Выява св. Ефрасінні Полацкай на запрашэнні на вечар, прысвечаны Беларусі і наладжаны нашым Пасольствам у Балгарыі*

Большасць рэспандэнтаў (64,3 %) сцвярджаюць, што рэлігія з’яўляецца захавальніцай нацыянальных традыцый і культуры. Рэлігійны спосаб кансервацыі і перадачы культурных каштоўнасцей ад пакалення да пакалення ўяўляе сабой неабходны і важны механізм культурнай пераемнасці. Таму спецыфіку нацыянальнай самасвядомасці нельга адэкватна вытлумачыць без аналізу ўсебаковага ўплыву на яе фактару рэлігіі.

Самасвядомасці беларусаў у цэлым былі характэрны рысы канфесіянальнай талерантнасці. Гэта адрознівала беларусаў ад народа Расіі, дзе праваслаўная ідэя вызначала развіццё самасвядомасці рускага этнасу і сфарміравала спецыфічны менталітэт. Аднак мэтазгодна выказаць думку аб уплыве уніяцкай царквы на захаванне беларускай мовы. Да уніяцтва людзей прываблівала яго ўвага да мясцовых нацыянальна-культурных традыцый, шырокае выкарыстанне беларускай мовы ў рэлігійным жыцці. Уніяцкія манастыры, якіх у XVIII ст. налічвалася каля 90, з’яўляліся буйнымі асяродкамі нашай старадаўняй культуры. Уніяты, у адрозненне ад беларусаў праваслаўнай і каталіцкай канфесій, былі найбольш устойлівыя і да паланізацыі, і да русіфікацыі. Можна сцвярджаць, што уніяцтва станавілася нацыянальнай беларускай царквой, яно захавала ў карыстанні старабеларускую мову. Таму ліквідацыя ў 1839 г. царскім урадам уніяцкай царквы мела негатыўны характар для беларускага народа і яго самасвядомасці.

Традыцыйнай рэлігіяй беларускага насельніцтва з'яўляецца хрысціянства. Хрысціянства на Беларусі не толькі важнейшы фактар, які садзейнічае захаванню традыцыйных норм. Дзякуючы сваёй цеснай сувязі з нацыянальнымі традыцыямі яно выконвае ролю сацыяльнага інстытута, які рэгулюе жыццядзейнасць не толькі веруючых, але і няверуючых. Таму ў рэгіёнах гістарычнага распаўсюджання хрысціянства яно з'яўляецца ў нейкай ступені спецыфічнай традыцыйнай формай вызначэння нацыянальнай самасвядомасці.

Характэрнай рысай росту нацыянальнай самасвядомасці сёння з'яўляецца высокая ступень цікавасці да хрысціянства, якая абумоўлена шэрагам прычын аб'ектыўнага і суб'ектыўнага плана:

1) скіраванасцю на ўсведамленне самабытнасці нацыянальнага быцця, дзе хрысціянства арганічна ўключана сваім абрадавым бокам у народную культуру;

2) скіраванасцю нацыянальнай самасвядомасці на ўсведамленне гістарычнай мінуўшчыны, якая ў беларускага народа, пачынаючы з IX ст., непарыўна звязана з хрысціянствам;

3) атаясамленнем у масавай нацыянальнай самасвядомасці рэлігійнай і нацыянальнай ідэнтыфікацыі (усведамленне сваёй этнічнай супольнасці ў многіх нераздзельна ад усведамлення сваёй рэлігійнай супольнасці);

4) працэсам інтэнсіўнага ўваходжання хрысціянства ў грамадскае жыццё (адкрыццё храмаў, духоўных школ, шырокая распаўсюджанасць рэлігійнай літаратуры).

Сёння на Беларусі налічваецца 2113 рэлігійных абшчын, у тым ліку 967 — праваслаўных, 391 — каталіцкая, 664 — пратэстанцкіх, 91 — іншых рэлігій. На тэрыторыі Беларусі дзейнічаюць 736 праваслаўных цэркваў, 277 касцёлаў, Праваслаўная духоўная акадэмія, праваслаўныя і каталіцкія духоўныя семінарыі, Біблейскі інстытут, 12 праваслаўных і 3 каталіцкія манастыры. Рэнесанс хрысціянства, які назіраецца ў рэспубліцы, характарызуецца яго актыўным уключэннем у грамадска-палітычнае жыццё.

Таму ў кантэксце пытання аб узаемадзеянні рэлігіі і нацыянальнай самасвядомасці неабходна падкрэсліць, што ў сучасных умовах назіраецца, з аднаго боку, далейшае ўмацаванне этнізацыі хрысціянства (пераважна ў яго бытавым аспекце), а з другога — вядомая хрысціянізацыя нацыянальнага жыцця, у тым ліку і нацыянальнай самасвядомасці, насычэнне яе ідэйным зместам хрысціянскіх каштоўнасцей.

Большасць рэспандэнтаў (80,3 %) вызначылі сваё веравызнанне як праваслаўе. І амаль такая ж колькасць рэспандэнтаў лічыць, што ў наш час менавіта праваслаўе найбольш спрыяе нацыянальна-культурнаму адраджэнню.

На пытанне анкеты: "Як часта вы наведваеце рэлігійныя храмы?" большасць рэспандэнтаў адказала, што некалькі разоў у год. Гэтыя адказы, на наш погляд, сведчаць аб тым, што сваё веравызнанне студэнцкая моладзь вызначыла па веравызнанню бацькоў.

Гаворачы аб маральным аспекце нацыянальнай самасвядомасці, хацелася б падкрэсліць той вялікі ўплыў, які аказвае сям'я ў яе фарміраванні. Нацыянальная самасвядомасць чалавека — гэта не толькі і не столькі разуменне ім сваёй прыналежнасці да нейкай нацыянальнасці, колькі пранізваючы яго свядомасць лад думак, пачуццяў, установак і арыентацый, што фарміруюць сістэму яго адносін як да сваёй, так і да іншых нацый. Фарміраванне самасвядомасці ў чалавека пачынаецца практычна з першых гадоў яго жыцця ў сям'і. Многія грамадскія адносіны, асабліва нацыянальныя, рэгулююцца менавіта праз сям'ю, і менавіта у ёй, на думку рэспандэнтаў, захоўваюцца і святкуюцца такія рэлігійныя святы, як Нараджэнне Хрыстовае, Вялікдзень, Радаўніца, Дзяды, Тройца і г. д. Большасць рэспандэнтаў (51,2 %) звяртаецца за дапамогай да сям'і, калі ўзнікаюць сур'ёзныя асабістыя праблемы.

Мяняюцца пакаленні, але лепшыя традыцыі народа застаюцца і атрымліваюць сваё далейшае развіццё. І менавіта сям'я выступае для нацыі тым каналам, праз які перадаюцца яе культурныя і маральныя каштоўнасці будучым пакаленням.



## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

### НА IX МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ РУСІСТАЎ У БРАЦІСЛАВЕ

У сталіцы Славацкай Рэспублікі Браціславе адбыўся чаргговы, IX Міжнародны кангрэс русістаў "Руская мова, літаратура і культура на мяжы стагоддзяў", арганізаваны Міжнароднай асацыяцыяй выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры (МАПРЯЛ) і Асацыяцыяй русістаў Славакіі (ARS). У кангрэсе ўдзельнічала 527 навукоўцаў з 38 краін Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Азіі і Афрыкі.

Беларусь на кангрэсе прадстаўлялі 14 удзельнікаў: Т. Валынец, Г. Варычэнка, С. Ганчарова-Грабоўска, І. Гасіева, Ю. Гурская, Н. Малочка, А. Нікіцевіч, Г. Няфагіна, С. Прохарава, І. Ратнікава, А. Саннікава, І. Скарапанава, Л. Церахава і аўтар гэтых радкоў. На жаль, не ўсе з 20 запрошаных на кангрэс беларускіх навукоўцаў змаглі прыехаць у Браціславу, але і гэта не перашкодзіла Беларусі стаць на кангрэсе па колькасці ўдзельнікаў другой пасля Расіі сярод буйных краін СНД (з Украіны, якая, дарэчы, мяжуе са Славакіяй, на кангрэсе было ўсяго 9 чалавек).

На штодзённых пасяджэннях чатырох буйных секцый (лінгвістычнай, літаратуразнаўчай, метадычнай і культуралагічнай) абмяркоўваліся разнастайныя актуальныя пытанні русістыкі і славістыкі. Кангрэс праходзіў пад знакам святкавання 200-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна, якому быў прысвечаны цэлы дзень (даклады і паведамленні па пушкінскай тэматыцы былі выдадзены асобнай кнігай "Наш Пушкін" на славацкай і рускай мовах). Адметнасцю гэтага кангрэса можна лічыць перавагу культуралагічнай парадыгмы ў асэнсаваннях з'яў мовы, літаратуры і нават дыдактыкі.

Беларусазнаўчая тэматыка закраналася ў дакладах І. Ратнікавай "Антыномія узуса і магчымасцей мовы ў анамастычнай семантыцы (на матэрыяле рускамоўных СМІ Расіі і Беларусі за 1996–1998 гг.)", Ю. Гурскай "Асабовае імя ў кагнітыўным аспек-

*(Заканчэнне на стар. 20)*



## ВІЗІТНАЯ КАРТКА БЕЛАРУСІ

Ужо некалькі гадоў гаварылася — і ў друку, і на розных пасяджэннях у Беларускім таварыстве дружбы, — што дзеля пашырэння нашай культуры ў свеце, дзеля таго, каб нас лепей ведалі і разумелі за рубяжом, нашай краіне патрэбны папулярны англамоўны часопіс (а потым — і нямецкамоўны, і французскамоўны, і польскамоўны). Зразумела, надзея найперш ускладалася на штомесячнік “Беларусь”, заснаваны Дзяржаўным камітэтам па друку і Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.




І вось у канцы мінулага года з’явіўся і паспеў нават трапіць на саміт у Стамбуле першы нумар англамоўнай “Беларусі”, “часопіса з цэнтра Еўропы”. На яго вокладцы — фотапартрэт семнаццацігадовай сінявокай прыгажуні Алены Шчарбак, якая стала на прэстыжным міжнародным конкурсе “першай віцэ-міс Еўропы”. Чым не візітная картка “зямлі пад белымі крыламі”?! Характэрна, што гэты нумар “Беларусі” з’явіўся амаль адначасова з пробным англамоўным нумарам “Кантактаў і дыялогаў”, сярод сузаснавальнікаў якога таксама значыцца Беларускае таварыства дружбы.

Караткевічаўскі матыў “зямлі пад белымі крыламі” шырока прысутнічае ў першым нумары англамоўнай “Беларусі” — і ў тэкстах, і ў фатаграфіях (асабліва тут вылучаюцца майстэрствам здымкі Анатоля Клешчука). У выданні многа інфармацыйных матэрыялаў, проста неабходных звычайнаму зарубежнаму чытачу, які ўсё яшчэ не дужа арыентуецца, дзе знаходзіцца гэтая “Уайт Раша”: яшчэ да Урала ці ўжо за Уралам. Тут і артыкул Алеся Сямёнава “Заснаванне беларускай дзяржавы”, і чарнобыльская тэматыка, і фотарэпартаж пра баявое братэрства беларуса Аляксандра Сільвашкі і амерыканца Уільяма Робертсана ў гады Другой сусветнай вайны, і публікацыі на рэлігійныя тэмы (пра крыж Ефрасінні Полацкай, святара з “глыбінкі”). Асобныя старонкі прысвечаны турызму, спорту (як тут не пахваліцца нашай Вольгай Корбут), шоў-бізнесу (апошняга нават замнога), нацыянальнай кулінарыі.

Сваёй грунтоўнасцю, інфармацыйнай насычанасцю вылучаюцца ў нумары інтэрв'ю намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, міністра замежных спраў Урала Латыпава, намесніка генеральнага дырэктара "БелОМО" Уладзіміра Кішкіна. Шырока прадстаўлена беларускае мастацтва. Тут і замалёўкі пра Марка Шагала, Міхаіла Савіцкага, Міколу Селешчука, і артыкулы пра балет Валянціна Елізар'ева і ансамбль "Неруш", і нататкі пра юныя таленты Дзінару Мазітаву і Сашу Чаркаса, якія ўжо атрымалі міжнароднае прызнанне. На жаль, амаль зусім не прадстаўлена мастацкая літаратура, бо фатаграфія Аляксея Дударава з дачкой не запаўняе прагалу. У будучым трэба даваць слова і паэтам, і празаікам, і крытыкам, бо ім ёсць што сказаць зарубежнаму чытачу.

Гаворачы пра першы нумар, варта прамовіць добрае слова яшчэ пра артыкул "Кругасветная адысея доктара Руселя". У ім цікава расказваецца пра нашага суайчынніка Мікалая Судзілоўскага, які пабываў на розных кантынентах, стаў прэзідэнтам сената на Гавайскіх астравах. Тэкст суправаджаецца фотаздымкамі. Паколькі Беларусь дала свету некалькі соцень такіх дзеячаў, як доктар Русель, паколькі за рубяжом іх па традыцыі лічаць выхадцамі з Расіі або Польшчы, падобныя матэрыялы павінны атрымаць на старонках англамоўнай "Беларусі" сталую прапіску.

Як і належыць выданням такога тыпу, англамоўная "Беларусь" добра, хоць і не бясспрэчна, аформлена. Па паліграфічнаму выкананню яна, бадай, не ўступае аналагічным зарубежным выданням. Хаця ёсць і "перасол": тэкст часам падаецца на цёмным ілюстрацыйным фоне і таму цяжка чытаецца, фармальныя пошукі шкодзяць зместу.

Хочацца верыць, што ў 2000 г. англамоўная "Беларусь" стане з'яўляцца рэгулярна. Інфармацыя — добрыя лекі супраць ізаляцыі.

***Аглядальнік***

## СВЯТКУЕ ДРУГАЯ, КАРАНАВАНАЯ СТАЛІЦА БЕЛАРУСІ

2 лютага ў Доме дружбы сабраліся кіраўнікі і работнікі культуры Навагрудскага раёна, знакамітыя ўраджэнцы Навагрудчыны, дзяржаўныя дзеячы, прадстаўнікі зарубежных пасольстваў. Каля ўвахода гасцей сустракалі музыкі. У зале былі развешаны палотны мастакоў з Навагрудчыны. А на заслоне вісеў яе гістарычны герб з выявай архангела Міхаіла. Святкавалася 60-годдзе ўтварэння Навагрудскага раёна. Прысутных прывітаў старшыня праўлення Беларускага таварыства дружбы Арсень Ваніцкі. Пра гісторыю, культуру, гаспадарку "Беларускай Швейцарыі" расказаў старшыня райвыканкама Анатоль Ліс. Ён прыгадаў, што Навагрудку больш за тысячу гадоў, што 800 год тут распаўсюджваецца праваслаўе. Былі названы славутыя землякі: Адам Міцкевіч, ганаровы грамадзянін Навагрудка акадэмік Барыс Кіт. Падкрэслівалася сувязь з параднёнымі гарадамі: нямецкім Ляйменам (яму была прысвечана асобная выстаўка), польскімі Эльблонгам і Крыніцай Морскай.

Ад імя Пасольства Балгарыі ў Беларусі і ўсяго дыпламатычнага корпуса спадар Васіл Петкаў перадаў навагрудчанам вітанне, расказаў пра навагрудскі перыяд жыцця славутага балгарскага асветніка Грыгорыя Цамблака. Намеснік міністра культуры Беларусі Валерый Гедройц гаварыў пра Навагрудак як пра першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, горад высокай культуры. Паэтэса Вольга Іпатава, якая цяпер узначальвае Саюз беларускіх пісьменнікаў, прыгадала, што гэты блаславёны Богам край (“тут, на ўзвышшы, бліжэй да неба”) даў чалавецтву французскага паэта Гіёма Апалінэра і турэцкую лекарку, аўтара прыгодніцкага рамана”Авантуры майго жыцця” Саламею Русецкую (Пільштынову). Паэтэса падзялілася планамі адраджэння гістарычных гарадоў: для пачатку гэты праект ахопіць Навагрудчыну і Браншчыну ў Расіі. Адам Мальдзіс ад імя МАБ павіншаваў навагрудчан з падвойным юбілеем: сёлета ёсць падставы святкаваць 760-годдзе заснавання ў Навагрудку, другой пасля Полацка беларускай сталіцы і першай “каранаванай” — Вялікага Княства Літоўскага, стварэнне якога тады адпавядала інтарэсам як беларускага, так і літоўскага этнасаў. Да раней названых прозвішчаў славутых ураджэнцаў Навагрудчыны былі дададзены новыя, у тым ліку прадстаўнікоў беларускай дыяспары Галіны Русак і Міхася Наўмовіча.




*Вокладка новага кніжнага выдання на беларускай і англійскай мовах, прысвечанага Навагрудку і Навагрудчыне (Мінск, 2000)*

Арсень Ваніцкі абвясціў, што Беларускае таварыства дружбы перадае дзіцячым дамам на тэрыторыі Навагрудчыны значную гуманітарна-медыцынскую дапамогу, атрыманую з-за рубяжа.

**_Вячаслаў Чамярыцкі,_**
*кандыдат філалагічных навук, ураджэнец Навагрудчыны*

## УВЕКАВЕЧЫМ ПАМЯЦЬ ІОСІФА ГАШКЕВІЧА

Беларускай грамадскасцю была праяўлена ініцыятыва ўвекавечыць памяць першага консула Расіі ў Японіі, выдатнага вучонага і падарожніка, ураджэнца Беларусі Іосіфа Гашкевіча — устанавіць яму ў г. Хакадатэ, дзе была яго місія, помнік работы таленавітага скульптара Валерыя Янушкевіча. Гэтую ідэю падтрымала і Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Японіі, яго Генеральнае консуль-

ства ў Сапара (у гэтую консульскую акругу ўваходзіць і Хакадатэ). Генеральны консул РФ А. В. Крыўцоў прысутнічаў разам са мной на сустрэчы з мэрам Хакадатэ. У час яе гарадскія ўлады далі згоду на ўстаноўку і адкрыццё помніка.

І тут раптам пачаліся непаразуменні. Некаторыя беларускія афіцыйныя асобы сталі даказваць, што помнік устанаўліваць не варта, таму што, маўляў, ён ужо… ёсць. Пры гэтым спасылаліся на адпаведны том "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі" (1997). Але ж сцвярджэнне шаноўнай энцыклапедыі не адпавядае сапраўднасці. Усё непаразуменне звязана з тым, што ў прыватным, сямейным музеі пана Такада Касіцы, патомка ў сёмым калене японскага купца Такадая Кахэя, які ў 1813 г. выратаваў рускага мараходца Галаўніна, знаходзіцца ўсяго толькі невялікі бюст Гашкевіча. І перададзены ён быў указанаму грамадзяніну не ад імя Пасольства СССР (г. зн. дзяржавы), а ад імя Саюза савецкіх таварыстваў дружбы, арганізацыі грамадскай.




*Бюст І. Гашкевіча (скульптар А. Комаў, Масква) у прыватным музейным пакоі ў Хакадатэ*

Улічваючы, што бюст уяўляе сабой твор камернага тыпу, прызначаны для экспанавання ў закрытых памяшканнях, японскі бок ніколі не разглядаў яго як помнік, улічваў тое, што ён быў перададзены ў прыватны музей, які складаецца ўсяго з аднаго пакоя. Уладальнік музея не з'яўляецца жыхаром горада Хакадатэ, прабывае ў Токіо і толькі некалькі разоў у год выбіраецца на радзіму сваіх продкаў. Інакш кажучы, музей не адчынены для шырокай грамадскасці, па сутнасці, увесь час знаходзіцца на замку. У час знаходжання ў Хакадатэ мне з вялікай цяжкасцю, пасля некаторых намаганняў, удалося трапіць туды.

Такім чынам, па меркаванню нашага Пасольства, якое падтрымліваецца Пасольствам РФ у Японіі і Міністэрствам замежных спраў РФ (намеснік міністра Г. Б. Карасін), акцыя, звязаная з устанаўленнем помніка І. А. Гашкевічу напярэдадні 140-годдзя адкрыцця першага рускага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Японіі, з'яўляецца вельмі і вельмі своечасовай.

Прашу гэтую інфармацыю давесці да ведама галоўнага рэдактара "Беларускай Энцыклапедыі" Г. П. Пашкова. Можа, ён знойдзе нейкую магчымасць выправіць недакладнасць. А там і афіцыйныя асобы зменяць сваё меркаванне.

***Пётр Краўчанка,***
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Японіі*



## “ЖАДАЮ БЕЛАРУСІ ЗАХАВАЦЬ СВАЮ САМАБЫТНАСЦЬ…”

У размове ўдзельнічаюць ***Герман Бідэр*** (Аўстрыя), прафесар Зальцбургскага універсітэта, сябра камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, і ***Людміла Хрышчановіч*** (Беларусь), кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Дыялог адбыўся у канцы снежня 1999 г. у Зальцбургу.

***Л. Х.*** *На пачатку выкажу задавальненне, што напярэдадні Новага года, калі аўстрыйскія гарадыззяюць агнямі, мне зноў пашчасціла пабываць у Зальцбургу, адным з самых прыгожых гарадоў Еўропы, зноў сустрэцца з Вамі. Яшчэ раз сцверджу, што Ваша імя добра вядома ў Беларусі, куды Вы неаднойчы прыязджалі з цікавымі дакладамі, у тым ліку на кангрэсы беларусістаў. У гэтых дакладах асвятляліся як пытанні сучаснага стану беларускай мовы, так і яе гісторыі, повязі з іншымі мовамі. Наколькі мне вядома, Вы добра валодаеце не толькі беларускай, але і іншымі славянскімім мовамі — рускай, польскай, украінскай, чэшскай, славацкай. Не выпадкова ж тэмай сваёй доктарскай дысертацыі Вы абралі “Нямецкія словаўтваральныя фарманты ў славянскіх мовах”... Але — бліжэй да асноўнай тэмы нашай гаворкі. Мы ўжо даўнавата не бачылі прафесара Бідэра ў нас, у Мінску. Не апраўдаліся нашы спадзяванні сустрэцца з Вамі і ў час работы IV Міжнароднай летняй школы па вывучэнню беларускай мовы, літаратуры і культуры, якая нарэшце зноў аднавіла сваю дзейнасць мінулым летам.*

**Г. Б.** На жаль, я атрымаў запрашэнне, калі мой летні рабочы расклад быў ужо зацверджаны, калі нельга было нічога змяніць. А ўвогуле я не сказаў бы, што рэдка бываю ў Беларусі. Апошні раз наведаў яе год таму, у снежні 1998 г., калі прыняў удзел у лінгвістычнай канферэнцыі, якую праводзіў тады філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

***Л. Х.*** *Чым знамянальны быў для Вас адыходзячы 1999 год? Што новага ўнёс ён у Ваша жыццё?*

**Г. Б.** У лютым я быў прызначаны дырэктарам Інстытута славістыкі нашага універсітэта. Зразумела, што абавязкі “шэфа” запатрабавалі многа часу для вырашэння самых розных пытанняў, у тым ліку і вучэбных. Фактычна сёлета я займаўся адмініcтраваннем і таму не меў магчымасці прысвяціць сябе навуцы. Але ўсё ж сёе-тое напісалася і надрукавалася. Пачакайце хвілінку, звярнуся да камп’ютэра. Няхай ён падвядзе вынікі маёй працы за мінулы год.

***Л. Х.*** *Ого, я бачу, што камп’ютэр выдаў цэлы спіс. Ёсць тут нешта беларускае?*

**Г. Б.** Так. Вось артыкул “Сучасны стан рускай, украінскай і беларускай

моваў” у нашым славяназнаўчым штогодніку. А на двухтысячны год здадзена праца “Узнікненне і развіццё славянскіх пісьмовых моваў”.

***Л. Х.*** *Мне вядома, што Вас асабліва цікавяць пытанні анамастыкі. Давайце накіруем гаворку ў гэтае рэчышча. Нас, беларусаў, непакоіць, што мы, па сутнасці, губляем свой іменаслоў. Да прыкладу, аказаўшыся ў студэнцкай аўдыторыі, Вы наўрад ці зможаце па імёнах вызначыць, у якой краіне знаходзіцеся. У Расіі? Беларусі? Аўстрыя — нямецкамоўная краіна. І ў гэтай сувязі мне хацелася б даведацца, якія працэсы адбываюцца ў Вашай анамастыцы. Ці мае аўстрыйскі іменаслоў сваю адметнасць? Што адрознівае яго ад суседняй Германіі?*

**Г. Б.** Я падзяляю Ваш непакой. А што тычыцца імёнаў, якія ўжываюцца ў Аўстрыі, то большая частка іх распаўсюджана ва ўсіх нямецкамоўных краінах. Гэта такія імёны, як *Йозэф, Ёган, Карл, Хайнрых, Людвіг, Моніка, Герлінда* і інш. Сярод іх — імёны біблейскага паходжання, імёны, якія мелі хрысціянскія святыя. Яны паходзяць з габрэйскай (*Анна, Марыя, Ева, Петэр*), класічных (*Маркус, Юсцін, Клаўдзія, Вероніка*), старажытнагерманскай (*Хельга, Роберт, Гернот*), раманскіх (*Аніта, Інэс*) моваў. І рэдка — са славянскіх (*Таццяна, Надзея*). Многія старыя нямецкія імёны сёння забыты, бо не было надзеленых імі хрысціянскіх святых. Таму яны не рэкамендуюцца пры хросце.



*Герман Бідэр (Аўстрыя, другі злева), Ніна Брэдэрлоў (Германія, трэцяя злева) на прызбе Коласавай хаты на Стаўбцоўшчыне*

У паўночных немцаў ёсць імёны, якія ніколі не ўжываліся ў Аўстрыі і паўднёвай частцы Германіі: *Кай, Увэ, Анке, Эльке, Лутц.* У той жа час у Аўстрыі ёсць свае спецыфічныя імёны, якія ў паўночных немцаў ужывюцца рэдка. Гэта *Вольфганг, Гертрауд, Нотбурга* або *Леапольд* (аўстрыйскі “мясцовы патрон”).

***Л. Х.*** *Вядома, што ў Аўстрыі многа ўвагі ўдзяляецца нацыянальнай анамастыцы. Выдаецца спецыяльны часопіс “Österreichische Namenforschung”. Якія змены адбыліся ў аўстрыйскім іменаслове за апошнія дзесяцігоддзі?*

**Г. Б.** У апошні час назіраецца выразна акрэслены паварот да ўжывання запазычаных імёнаў. Мне бачыцца цэлы комплекс прычын такой “інтэрнацыяналізацыі” пры назове дзіцяці. Гэта і ўступленне Аўстрыі ў Еўрапейскае супольніцтва, і шматбаковыя кантакты аўстрыйцаў з Захадам, і эміграцыя вялікай колькасці замежных грамадзян з усіх канцоў свету. Сёння пры хрышчэнні дзіцяці многія людзі нават не цікавяцца паходжаннем імя, у большасці выпадкаў

ідуць за модай, даюць імёны сваякоў, сяброў або проста выбіраюць імёны, якія маюць меладычнае гучанне (гэта пераважна кароткія, насычаныя галоснымі імёны тыпу: *Карын, Лідзія, Даніэла, Андрэа* і інш.).

***Л. Х.*** *У беларусаў ёсць цэлы шэраг жаночых імёнаў, утвораных ад мужчынскіх. Ці назіраецца такая з'ява ў аўстрыйскіх найменнях асобы?*

**Г. Б.** Так, такія імёны ёсць і ў аўстрыйскім іменаслове: *Міхаэль – Міхаэла, Марцін – Марціна, Вільгельм – Вільгельміна, Йаганэс – Йаганна.* Зразумела, што не ад усіх мужчынскіх можна ўтварыць жаночыя. Такія імёны, як *Курт, Георг, Гюнтэр, Манфрэд*, не маюць жаночых адпаведнікаў. У сваю чаргу нельга ўтварыць мужчынскія імёны ад жаночых *Моніка, Сібіла, Брыгіта* і інш.

***Л. Х.*** *У чым выяўляецца адметнасць аўстрыйскіх прозвішчаў?*

**Г. Б.** Для аўстрыйскіх прозвішчаў не характэрна аднакаранёвая аснова (тыпу *Форстэр, Брыгер*). Часцей яны ўтвораны з двух каранёў і аднаго суфікса (тыпу: *Фукс-берг-ер, Фельд-бах-ер*). Такім чынам, яны з'яўляюцца двухкампанентнымі, як многія старыя нямецкія імёны (*Гер-хард, Гер-ман, Віль-фрыд*). У адрозненне ад большасці славянскіх прозвішчаў у аўстрыйскіх сустракаюцца імёны без спецыяльнай суфіксацыі, а таксама імёны ў функцыі прозвішчаў: *Йозэф Карл* (Йозэф — імя, Карл — прозвішча), *Хельмут Фрыц, Вільгельм Франк* і г. д.

***Л. Х.*** *Цікава было б даведацца пра паходжанне прозвішча Бідэр.*

**Г. Б.** У нямецкамоўных краінах даволі часта выкарыстоўваецца ў функцыі прозвішча прыметнік. Да прыкладу: *Хельмут Грос* (вялікі), *Ганс Кляйн* (маленькі). Прозвішча *Бідэр* адносіцца да такой жа катэгорыі. *Бідэр* — гэта прыметнік, які ў старанямецкай мове азначаў: “сумленны, шчыры, прыстойны, паважаны”. У новай нямецкай мове гэты прыметнік набыў іншае адценне: “прастадушны, абмежаваны, наіўны”. Прыкладам тыповага спалучэння з названым прыметнікам з'яўляюцца такія прозвішчы, як *Бідэрман* (у значэнні мешчанін) і *Бідэрмайер* — яно сёння ўспрымаецца як назва плыні, што існавала ў нямецкім мастацтве ў 1815–1848 гг.

***Л. Х.*** *Прафесар Бідэр, наша сустрэча адбываецца напярэдадні Новага 2000 года. Дазвольце пажадаць Вам плёну ў працы — як у навуковай, так і на пасадзе дырэктара Інстытута славістыкі, а таксама выказаць надзею, што тыя кантакты, якія ўжо наладзіліся паміж нашымі краінамі, установамі і арганізацыямі, будуць мацнець і развівацца.*

**Г. Б.** Дзякую. У сваю чаргу я жадаю Беларусі захаваць сваю самабытнасць, ісці дэмакратычным шляхам, паспяхова вырашаць гаспадарчыя і сацыяльныя праблемы і, вядома ж, пашыраць кантакты не толькі з усходнімі, але і з заходнімі краінамі.

***Л. Х.*** *Я спадзяюся, што ў юбілейным, міленіумным годзе мы зноў сустрэнемся, скажам, на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў.*

## ПАРЫЖСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Не ведаю, чым кіраваўся Ежы Гедройц, рэдактар славутай парыжскай “Культуры”, калі прапанаваў Французскаму інстытуту міжнародных адносін менавіта маю кандыдатуру для ўдзелу ў прэстыжнай міжнароднай навуковай канферэнцыі пра нацыянальную самасвядомасць народаў і краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Магчыма, тым, што ў “Культуры” ўжо быў надрукаваны мой адзін матэрыял — тэкст выступлення на канферэнцыі, праведзенай у час саміту ў Вільнюсе ў 1997 г., а таксама тым, што мы рэгулярна пасылаем яму нашы “Кантакты і дыялогі”. Ва ўсякім выпадку я ўспрыняў запрашэнне як вялікі гонар. Яшчэ б! Ураджэнец Мінска Ежы Гедройц лічыцца ў свеце паслядоўным абаронцам правоў беларусаў, літоўцаў, украінцаў. Яшчэ ў першыя пасляваенныя гады ён перасцерагаў кансерватараў з польскай эміграцыі, каб яны “распакавалі чамаданы”, не спяшаліся вяртацца ў Вільню, Гродна ці Львоў, бо тое, што там павінна нарадзіцца, будзе не Польшчай, а незалежнымі нацыянальнымі краінамі. Гэтае прароцтва збылося. І цяпер польскі рэдактар-мысліцель дапамагае новым дзяржавам, чым можа: абаронай у друку, стыпендыямі, грашовай дапамогай навучальным установам. Менавіта таму бюро камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў рашыла выбраць нашага суайчынніка сваім ганаровым сябрам. Разам з дыпломам пра сяброўства я вёз з сабой у Парыж (з прыпынкам у Берліне, дзе адбыліся плённыя размовы з беларусістамі) беларускі народны пояс, выраблены мінскай “Скарбніцай”.

Найпершая сустрэча ў сталіцы Францыі адбылася ў беларускім пасольстве — з нашым паўнамоцным прадстаўніком у Францыі і ЮНЕСКО Уладзімірам Сянько. Уразілі элегантны будынак амбасады, густоўныя інтэр’еры, узорны парадак, добрая беларуская мова супрацоўнікаў. Наша паўтарагадзінная гаворка вялася пераважна пра будучы III Міжнародны кангрэс беларусістаў, пра магчымую дапамогу ў яго правядзенні з боку ЮНЕСКО, а таксама, шырэй, пра беларуска-французскія культурныя кантакты.

Уладкаваўшыся жыць у Парыжскім аддзяленні Польскай акадэміі навук (тут мне сказалі, што такое неўзабаве павінна адкрыцца і ў Мінску — на ўзаемных пачатках з Беларуссю) і купіўшы карту, адправіўся знаёміцца з адным з найпрыгажэйшых і найстарэйшых гарадоў Еўропы. Яго прыгажосць уражвае (хаця ў галаве ўвесь час кружыліся словы Дуніна-Марцінкевіча пра адданасць “бацькоўскаму краю”: “Што мне пекны Парыж, што мне Лондан туманны…”). А вечарам сустрэўся з Вірджыніяй Шыманец і Ігарам Ляльковым. Першая з іх, унучка беларускага мастака, цяпер разам з Марыяй Гужон і Бруна Дрвескім выдае на французскай мове квартальнік “Беларускія перспектывы”. Другі ж выяўляе ў парыжскіх архівах беларускія матэрыялы. Гаварылі, вядома ж, пра кангрэс. А з Ігарам Ляльковым дамовіліся, што абавязкова сходзім у тутэйшую “беларускую хатку” — да мастака Міхася Наўмовіча.

Канферэнцыя аказалася вельмі прадстаўнічай, інфармацыйна насычанай. Арганізацыйны прынцып: адна краіна — адзін прадстаўнік. І толькі ад Беларусі,

у адрозненне ад Расіі, Украіны ці Літвы, — двое: філосаф Алесь Анціпенка і я. Анціпенка гаварыў пра складаны гістарычны шлях беларускага народа, нашу ўзаемазалежнасць ад польскай і рускай гісторыі. Свой даклад я азагаловіў палемічна: “Ці стане беларуская папялушка хаця б паннай на выданні?!” Маецца на ўвазе — “на выданні” для Еўропы, якая не зусім разумее нас, не ўлічвае, што ў выніку шматвяковых паланізацыі і русіфікацыі працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў яшчэ далёкі ад завяршэння. І дзеля таго, каб папялушка ператварылася б у каралеўну, ёй трэба “штодзённай, шэрай” працай стварыць свой “пасаг” — уласны дом, уласны менталітэт.

На пасляабедзенным пасяджэнні міністр замежных спраў Польшчы Баніслаў Герэмэк, які якраз старшынстваваў, прадаставіў мне слова для ўшанавання Ежага Гедройца, ініцыятара канферэнцыі. Падзякаваўшы яму за ўвагу і дапамогу беларусам, я перадаў Нестару польскай публіцыстыкі (нядаўна яму споўнілася 93) нашы сціплыя ўзнагароды і падарункі, у тым ліку і ад намесніка міністра культуры Беларусі Валерыя Гедройца, прадстаўніка таго ж старажытнага беларуска-літоўскага (ліцвінскага) роду. Рэдактар “Культуры” з сантыментам згадаў Мінск пачатку XX стагоддзя, зацікавіўся будучым кангрэсам беларусістаў.



*Міхась Наўмовіч. «Аўтапартрэт». (1945)*

У кулуарах канферэнцыі некалькі разоў удалося пагаварыць з Чэславам Мілашам. Прыгадаў, што яшчэ у 1990 г., на канферэнцыі у Рыме, як лаўрэат Нобелеўскай прэміі ён абяцаў падтрымаць кандыдатуру Васіля Быкава. Паэт цёпла гаварыў пра Беларусь, адкуль, з Чарэі, паходзіў яго стрыечны брат, французскі і літоўскі паэт Оскар Мілаш, згадаў Оршу, дзе ён хлопчыкам згубіўся ў 1918 г. І напісаў пра гэта верш. Але ад падтрымкі спачатку адмаўляўся:

— Быкаў жа пісаў пра савецкую армію…

— Але як пісаў?! Чаму ж тады савецкая ўлада пасылала піянераў, каб яны білі вокны “ворагу народа”?

— Тады сапраўды трэба падумаць, як мне быць.

На наступны дзень адбылася яшчэ адна канферэнцыя — у Польскім інстытуце ў Парыжы. Зноў у цэнтры ўвагі быў Ежы Гедройц. Я прыняў удзел у дыскусіі пра ролю польскай інтэлігенцыі (зразумела, у дачыненні да беларусаў).

Вечарам таго ж дня мы — з Алесем Анціпенкам і Ігарам Ляльковым — скіра-

валіся ў “беларускую хатку” на вуліцы Гравільё, амаль у цэнтры Парыжа. Раней гэтая сціплая аднапакаёвая кватэра належала айцу Льву Гарошку, потым кошты яе ўтрымання стаў аплачваць айцец Аляксандр Надсон. Цяпер тут месціцца Саюз беларусаў Францыі “Хаўрус”. На парозе нас сустрэў Міхась Наўмовіч. Нягледзячы на свае 75 год, ён бадзёры, поўны жыццёвых і творчых задумак.

За сціплай вячэрай пачалася гаворка пра лёсы беларускай творчай інтэлігенцыі, якая апынулася ў эміграцыі. Апрача Міхася Наўмовіча ў Парыжы жылі і жывуць іншыя беларускія мастакі: Шыманец, Жаўняровіч (яму я прывёз ліст ад земляка Сяргея Панізніка з прапановай стварыць музей у родным Падзвінні), Забораў, Паўлоўскі. Усе яны сумуюць па радзіме, абараняюць яе гонар — і вусна, і ў друку. Але змаганне за нятанны кавалак хлеба не дае ім магчымасці весці актыўную грамадскую дзейнасць. А Міхась Наўмовіч спалучае і творчасць, і выкладанне, і кіраўніцтва “Хаўрусам” (дарэчы, заснаваным яшчэ даваеннай працоўнай эміграцыяй, якая выдавала тут беларускі часопіс).

З апавяданняў гаспадара (як і з прачытаных раней артыкулаў Таццяны Антонавай і Вацлава Багдановіча) паступова паўставаў перада мной нялёгкі жыццёвы шлях засяроджанага, па-беларуску стрыманага і адначасова адкрытага, шчырага чалавека. Нарадзіўся ён у вёсцы Кашалёва на Навагрудчыне. Вучыўся малюнку ў мясцовага мастака Рамашкевіча. У складзе арміі генерала Андэрса, а потым — французскага Супраціўлення ваяваў з нацыстамі. Застаўшыся ў Парыжы, закончыў мастацкую акадэмію, Школу фізіялогіі. Яго малюнкі і скульптуры ўпрыгожваюць французскія касцёлы і сцены дамоў (“Святая на вогнішчы”). Ён аднаўляў выявы залатых львоў каля плошчы Канкорд. Пабудаваў у Альпах домік, які хоча зрабіць месцам пленэраў беларускіх мастакоў. Рыхтуе скульптуру для свайго роднага Навагрудка, у якім не так даўно пабываў.



*Міхась Наўмовіч. «Партрэт невядомага салдата арміі Андэрса». (1945)*

Паказваю Міхасю Наўмовічу копіі яго малюнкаў, якія выпадкова трапілі у рэдакцыю “Кантактаў і дыялогаў”. Гаспадар адразу ж ідэнтыфікуе іх: адзін — яго аўтапартрэт 1945 г., другі — партрэт невядомага салдата з арміі Андэрса, таксама 1945 г. Дамаўляемся, што змесцім іх у чарговым нумары “Кантактаў…”. Міхась Наўмовіч абяцае падтрымку нашаму выданню.

— Хочацца зноў прыехаць на радзіму, — кажа ён на развітанне, — арганіза-

ваць выстаўку, сабраць там усё, што назапасілася ў Францыі, ЗША, Канадзе. Ды і ў вас, у Цэнтры імя Скарыны, ёсць жа мой партрэт Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

— То, можа, у нашым Цэнтры і арганізуем выстаўку?!

— Дай тое, Божа. Дай, Божа, Беларусі моцы і гарту ў юбілейным, міленіумным двухтысячным годзе!

***Адам Мальдзіс***

## ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ



*(Пачатак на стар. 9)*

це", Д. Будняк (Польшча) "Інтэнсіфікацыя міжславянскіх культурных сувязей па-за духоўным абменам рускіх і славян", І. Мяноўскай (Польшча) "Літаратура развражае вобразамі выяўленчага мастацтва (на прыкладзе творчасці Марка Шагала і Вадзіма Сідура)", В. Макіенкі (Германія) "Руская карціна свету і супастаўляльны аналіз фразеалогіі і парэміялогіі" і інш., а таксама ў апублікаваных дакладах І. Роўды "Структурныя тыпы функцыянальна-семантычных палёў у супастаўляемых мовах (у сувязі з пытаннем аб вербальных лакунах)" і А. Лукашанца "Сацыялінгвістычныя аспекты функцыянавання і вывучэння рускай мовы ў Беларусі".

У апошні дзень кангрэса адбылося пасяджэнне IX Генеральнай асамблеі МАПРЯЛ, на якім Беларусь прадстаўлялі С. Прохарава (член Прэзідыума МАПРЯЛ), М. Ганчарова-Грабоўска, Ю. Гурская, А. Нікіцевіч і А. Саннікава. Прэзідэнтам МАПРЯЛ зноў быў выбраны рэктар Інстытута рускай мовы імя А. С. Пушкіна акадэмік РАН В. Кастамараў. Чарговы, X Міжнародны кангрэс МАПРЯЛ вырашана правесці летам 2003 г. у Санкт-Пецярбургу.

***Яўген Іваноў** (Магілёў)*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

~ ~

Пасажырамі літаратурнага экспрэса "Еўропа – 2000" стануць беларускія пісьменнікі Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Уладзімір Федарэнка. Цягнік адправіцца з Партугаліі 19 мая праз 12 еўрапейскіх краін, у тым ліку праз Беларусь. Адзін з галоўных прыпынкаў мяркуецца зрабіць у Брэсце (з выездам у Белавежскую пушчу).

~ ~

У Мінску было адзначана 700-годдзе культурнай спадчыны Асманскай імперыі. Пасольства Турцыі ў Беларусі наладзіла з гэтай нагоды канцэрт у зале Дзяржаўнай філармоніі. У ім з поспехам выступіла заслужаная артыстка Рэспублікі Турцыя флейтыстка Шафіка Кутлуэр.



*Іван Яшкін (Мінск)*

## ДА ГІСТОРЫІ ГАБРЭЯЎ У БЫЛОЙ ПРАПОЙСКАЙ ВОЛАСЦІ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

Габрэйскае насельніцтва на Беларусі, як вядома, пашыралася з захаду і паўднёвага ўсходу. У Віцебскую губерню яўрэі перасяліліся з Польшчы не раней другой паловы XVII ст. (а туды яны прыйшлі пасля 1096 г. з Германіі і праз Віленскі край у Расію). На Магілёўшчыне, у Крычаве, габрэі як пасэсары (арандатары) мытняў сустракаюцца з 1494 г.



*Старонка з габрэйскага рукапісу на пергаменце (Слаўгарад)*

На тэрыторыі сучаснай Беларусі аб габрэйскіх пасяленнях, супольнасцях упершыню ўпамінаецца ў крыніцах першай чвэрці XVI ст. — у Мінску, Магілёве, Віцебску, у другой палове — у Бабруйску, Дрысе, Навагрудку, Полацку, у трэцяй (да 1569 г.) — у Глыбокім, Друі, Клецку, Ляхавічах, Мсціславе, Радашковічах, у чацвёртай — у Оршы, у першай чвэрці XVII ст. — у Брагіне, у другой — у Быхаве, Гомелі, Горках, Копысі, Рэчыцы, Старым Быхаве, Чэрыкаве, Уздзе, Чавусах, Чачэрску, Шклове, у трэцяй — у Бабруйску, Бялынічах, Крычаве, першай чвэрці XVIII ст. — у Барысаве, Жлобіне, Лёзне, Лукомлі, Расне, Самахвалавічах, Суражы, Ушачах, Чашніках, у трэцяй — у Валожыне, Веліжы, Гарадку, Дрыбіне, Дукоры, Ігумене, Лоеве, Лядах, Свержані, Свіслачы.

Пасяджэнні габрэйскіх сеймаў і сеймікаў адбываліся ў Бялынічах, Старым Быхаве, Копысі, Дуброўне, Шклове, Магілёве. Напярэдадні Андрусаўскага міру (1667) паўночны ўсход Беларусі адносіўся да габрэйскай адміністрацыйнай адзінкі Ваада Літоўская і знаходзіўся ў сферы ўплыву Брэсцкай акругі.

У 1791 г. тэрыторыя Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай, Віленскай і Ковенскай губерняў увайшла ў склад мяжы аселасці, дзе габрэям дазвалялася пастаянна пражываць у гарадах і мястэчках, апрача сельскіх паселішчаў. У іх габрэйскае насельніцтва часам перавышала колькасць мясцовага. Напрыклад, у Лідскім пав. налічвалася 42 тысячы габрэяў, у с. Ямнае Быхаўскага пав. Магілёўскай

губ. на 1 студзеня 1847 г. было зарэгістравана 3347 чалавек, а ў Гомелі — 2395 чалавек.

У канцы XIX ст. габрэйскія двары, крамы, майстэрні адзначаюцца ў сельскіх мясцовасцях — казённых і іншых паселішчах (1).

Паводле архіўных матэрыялаў наяўнасць местачковага габрэйскага насельніцтва (хоць і адзінкава) адзначаецца на Слаўгарадчыне з XVII ст. Так, у Прапойску ў 1675 г. паводле бірчаў (інвентароў) Прапойскай воласці (2) значыцца прозвішча Maior Zyd. Праз 75 гадоў (1750) у тым жа Прапойску налічвалася ўжо 14 габрэйскіх двароў і 86 двароў праваслаўных жыхароў (ва ўсёй Прапойскай вол. у 1750 г. зафіксавана 48 населеных пунктаў, 739 двароў, 11 млыноў, воласць плаціла чыншу 204 злотых 7 1/2 грошай).

У 1873 г. на тэрыторыі Слаўгарадчыны (Прапойская вол. Быхаўскага пав. і частка населеных пунктаў Чэрыкаўскага пав.) габрэяў пражывала ўжо значная колькасць. Вось некаторыя звесткі: м. Прапойск — 198 габрэяў мужчынскага полу ( і "прочего населения 344 души"; наогул жа ў Прапойскай воласці тады было 1849 габрэяў), м. Новы Быхаў — 300 (і 435), сяліба Уюн (Вьюн) — 62 (119), в. Волкаўка — 4 (55), в. Гіжня (казённае паселішча) — 37 (141), в. Гіжэнка ("казенное поселение") — 29 (і 73), с. Рэкта — 14 (і 267), сяліба Сапежынка — 118 (і 1), в. Трасліўка (казённае паселішча) — 3 (і 106), с. Целяшы (казённае паселішча) — 22 (103) (3). У архіўных матэрыялах указваецца, што ў маёнтку Гарадзецкім Чэрыкаўскага пав. габрэі былі паселены на запасных землях у 1849 г. (4).

У пачатку XX ст. габрэі жылі "временно" , "на временном поселении" ў вёсках Бярозаўка, Васькавічы, Віравая, Гразівец, Дужаўшчына, Доўгі Мох, Кутня, Красная Слабада, Кузькавічы, Пацяраеўка, Рабавічы, Чыкаўка (5).

У в. Шаламы жыў на кватэры ў мясцовых сялян Апанаса і Дуні Герасімаўны Давыдзенкаў прапойскі габрэй Ар'я, ці Аарон Моўша разам з жонкай. Сям'я арандатара сябравала з сям'ёй Міхаіла Кірэевіча Яшкіна (майго дзеда). Моўша арандаваў млын на летапіснай рэчцы Пішчані (млын таксама ўпамінаецца ў 1681 г. (6). Сям'я Аарона падаравала дзеду малітву, якая напісана на пергаменце ад рукі на старажытнай габрэйскай мове. Мы захоўваем гэтую сямейную рэліквію. У Вялікую Айчынную вайну яна была закапана разам са школьнымі падручнікамі і захавалася. У нашай сям'і яна з'яўляецца знакам светлай дружбы майго дзеда-печніка з арандатарам-млынаром у канцы XIX – пачатку XX ст.

---

(1) Памятная книжка Витебской губернии на 1865 год / Под ред. А. М. Сементовского. СПб., 1865. С. 717, 722, 723; История еврейского народа. М., 1914. Т. 11. Вклейки после с. 112 и I–IV. Карты 1–3; Гессен Ю. История евреев в России. СПб., 1914; Историко-географический и статистический обзор. Вып. 1. С. 304; Вільнюскі універсітэт. Аддз. рук. Навуковай бібліятэкі. Русское географическое общество. Ф. 34, спр. 419, арк. 2 адв; Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, Ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.

(2) НГА РБ. Ф. 694, воп. 4, інв. 1556, арк. 146.

(3) Тамсама. Ф. 2189, воп. 1, адз. зах. 517, арк. 23 адв.; адз. зах. 516, арк. 3, 4б адв.
(4) Тамсама. Адз. зах. 309, арк. 46.
(5) Тамсама. Ф. 2001, воп.1, адз. зах 1923, арк. 5.
(6) Тамсама. Ф. 694, воп. 4, інв. 1556, арк. 198.

## Малітва

Слухай, Ізраіль: Госпад — Бог наш, Госпад адзін! Блаславёна слаўнае імя яго на вякі вякоў!

Любі Госпада, Бога твайго, усім сэрцам сваім і ўсёй душою сваёй, якія я запаветаваў табе сёння, у сэрцы тваім, паўтарай іх дзецям сваім і вымаўляй іх, седзячы ў хаце сваёй, знаходзячыся ў дарозе, кладучыся і ўстаючы; і пакладзі іх як знак на руку сваю, і будуць яны знакамі над вачамі тваімі, і напішы іх на вушаках хаты сваёй і на варотах сваіх.

І будзе так: калі паслухаецеся маіх загадаў, якія я даю вам сёння, любячы Госпада, Бога вашага, і служачы яму ўсім сэрцам вашым і ўсёй душой вашай, то дам я дажджы зямлі вашай у тэрмін: дождж пасля сяўбы і дождж перад жнівом — і сажнеш ты свой хлеб, і віно сваё, і алей сваіх алівак. І дам траву на полі тваім для жывёлы тваёй, і будзеш ты есці досыць, будзеш сыты. Беражыцеся, каб вашы сэрцы не паддаліся спакусе, каб не збочылі вы са шляху і не сталі служыць іншым багам і пакланяцца ім, інакш разгневаецца на вас Госпад і замкне нябёсы, і не будзе дажджу, і зямля не стане прыносіць свае плады. І зікнеце вы ў хуткім часе з твару добрай зямлі, якую Госпад дае вам. Прыміце гэтыя мае словы сэрцам вашым і душой вашай, павяжыце іх як знак на руку вашу, і будуць яны знакамі над вачамі вашымі. І навучыце ім сыноў вашых, каб вы ўсе вымаўлялі іх, седзячы ў хаце сваёй, знаходзячыся ў дарозе, кладучыся і ўстаючы; і напішыце іх на вушаках хаты сваёй і на варотах сваіх, каб вы і сыны вашы жылі ў краіне, пра якую Госпад кляўся вашым бацькам, абяцаючы даравваць яе ім, так доўга, як доўга існуюць нябёсы над зямлёй.

*Выказваю сардэчную падзяку **Наталлі Грынблат** (Ізраіль) за пераклад малітвы са старажытнагабрэйскай мовы.*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

~ ~

Карэліцкі райвыканкам Гродзенскай вобласці ўстанавіў таленавітым вучням школ раёна стыпендыю імя выдатнага асветніка, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі, чыё 200-годзе з дня нараджэння будзе неўзабаве адзначацца.



## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

### ГАШТАЛЬД ТАДЭВУШ



***Гаштальд Тадэвуш*** *(1.01.1932, Віленшчына), доктар габілітаваны, прафесар Вышэйшай педагагічнай школы ў Слупску (Польшча), гісторык, грамадскі дзеяч.*

Т. Гаштальд паходзіць з сям'і, здаўна аселай у Ашмянскім павеце. У 1945 г. сям'я пераехала ў Польшчу, у г. Хошчна. Вучыўся ў Вроцлаўскім універсітэце. З 1969 г. працуе ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Слупску. Займаецца навукова-даследчыцкай дзейнасцю. У сферы яго даследаванняў — гісторыя заходне-паморскага рэгіёна ў XIX і XX стст., дзейнасць польскіх ваеннапалонных у канцлагерах у час Другой сусветнай вайны. З'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў, 10 манаграфій, сярод якіх — "Па слядах паморскай аперацыі" (1973), "Культурнае жыццё ў лагерах польскіх ваеннапалонных на Заходнім Памор'і. 1939–1945" (1977), "Над Нёманам і Ашмянкай: з гісторыі АК на Віленшчыне і Навагрудчыне" (1991), "Культурна-асветніцкае жыццё ў лагерах польскіх ваеннапалонных у СССР (1939–1945)" (1994), "Налібоцкая пушча: з гісторыі праследаванняў, барацьбы і мардаванняў у 1939–1945 гг." (1998) і інш. З'яўляецца сааўтарам 7 навуковых даследаванняў, рэдактарам калектыўных зборнікаў.

Наш суайчыннік прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. З'яўляецца ініцыятарам стварэння і заснавальнікам "Таварыства прыхільнікаў Віленшчыны і Крэсаў Усходніх" у Кашаліне. З 1993 г. пад рэдакцыяй Т. Гаштальда выходзіць часопіс-бюлетэнь "Ziemia Oszmiańska" ("Ашмянская зямля"), дзе друкуюцца матэрыялы, прысвечаныя актуальным пытанням гісторыі і культуры Беларусі. Цікавіцца падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі, папулярызуе ідэі беларушчыны, цеснага культурнага ўзаемадзеяння польскага і беларускага народаў.

***Ірына Тамільчык***

## ГІЛЬ ЮРЫЙ

***Гіль Юрый*** *(11.1.1942, в. Вашунова Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.), гісторык, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, беларускі грамадскі дзеяч.*

Ю. Гіль нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Параф'янаўскай сярэдняй школы (1959) два гады працаваў ў мясцовым калгасе "Чырвоны сцяг". У 1961–1964 гг. служыў у радах Савецкай Арміі. Вычыўся на гістарычным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута (1964–1968), пасля заканчэння якога быў настаўнікам гісторыі, дырэктарам васьмігадовай школы ў Докшыцкім р-не. Жывучы ў Мінску, быў адказным сакратаром таварыства "Веды" Мінскага р-на (1972–1975), інспектарам аддзела кадраў сельгастэхнікі Мінскага р-на, выхавацелем у інтэрнаце Мінскага аб'яднанага авіяатрада. У 1985–1988 гг. працаваў рабочым, брыгадзірам будаўнікоў у Сібіры. З 1988 г. удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Пэўны час узначальваў аддзяленне БНФ Мінскага р-на. У 1989 г. пераехаў у Вільнюс, дзе працаваў на розных прадпрыемствах. Быў ініцыятарам стварэння ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, да 1996 г. выконваў абавязкі адказнага сакратара таварыства, цяпер узначальвае яго. У бацькоўскай хаце на сваёй радзіме заснаваў гісторыка-этнаграфічны музей "Засцянковая хатка".



Ю. Гіль з'яўляецца прадстаўніком ў органах мясцовай літоўскай улады, актыўна займаецца культурна-грамадскай дзейнасцю, плённа працуе ў галіне адраджэння і захавання беларускай культуры на Віленшчыне.

***Леакадзія Мілаш*** *(Вільнюс)*

## ПРУДНІКАЎ ІВАН

***Пруднікаў Іван Савельевіч*** *(16.06.1919, в. Папаратка Клімавіцкага пав. Гомельскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл.), канструктар касмічнай тэхнікі, доктар тэхнічных навук (1958).*

І. Пруднікаў нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1924 г. разам з сям'ёй выехаў у Краснадарскі край. Вярнуўся ў 1933 г. на радзіму, але неўзабаве выехаў у Краматорск (Данецкая вобл., Украіна), потым — да старэйшага брата ў Варонеж. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1936) вучыўся ў Сталінградскім механічным інстытуце. У 1941 г. закончыў яго з адзнакай. У ліпені–жніўні 1941 г. працаваў

на Сталінградскім трактарным заводзе тэхналагам, потым наладчыкам станкоў ў цэху па выпуску танкаў Т-34. З верасня 1942 г. да сакавіка 1946 г. працаваў на эвакуіраваным з г. Сумы заводзе № 724 імя М. Фрунзе ў г. Чырчыку Ташкенцкай вобл. Узначальваў канструктарскае бюро інструментаў і прыстасаванняў.

І. Пруднікаў з 1946 г. распачаў работу ў галіне ракетабудавання. Працаваў у навукова-даследчым інстытуце № 88 (цяпер Ракетна-касмічная карпарацыя “Энергія” імя С. П. Каралёва) у аддзеле галоўнага канструктара С. П. Каралёва. Прымаў удзел у стварэнні айчыннай ракеты Р-1, ракеты-носьбіта Р-2. Вучыўся ў аспірантуры (навуковы кіраўнік С. П. Каралёў). Абараніў кандыдацкую дысертацыю (1955). У 1956–1966 гг. узначальваў праектна-канструктарскі аддзел галаўных частак балістычных ракет, у 1966–1974 гг. — аддзел па праектаванню касмічных караблёў і распрацоўцы ракетна-касмічнага комплекса для экспедыцыі на Месяц. У 1974–1982 гг. быў галоўным канструктарам экспедыцыйнай месячнай базы-станцыі. З 1982 г. на пенсіі, але да 1995 г. працаваў на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка.



І. Пруднікаў — лаўрэат Ленінскай прэміі, узнагароджаны 2 ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі. Жыве ў г. Каралёве Маскоўскай вобл.

***Аляксей Кажамяка***
*(г. Клімавічы Магілёўскай губ.)*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

~ ~

Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта разам з Польскім таварыствам беларусістаў, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, Польскім інстытутам у Мінску і Саюзам палякаў ў Беларусі 16–17 чэрвеня 2000 г. арганізуюць у Белавежы VIII сесію Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Шлях да ўзаемнасці”. Яна будзе прысвечана розным праявам польска-беларускіх сувязей у галіне літаратуры, мовы, фальклору, культуры, адукацыі і навукі. Заяўкі з указаннем тэмы прымаюцца да канца красавіка 2000 г.

Заяўкі можна прысылаць як на адрас Цэнтра імя Ф. Скарыны (Мінск, 220050, вул. Рэвалюцыйная, 15), так і на адрас кафедры беларускай філалогіі (Warszawa, ul. Szturmowa, 4).

## ВІНШУЕМ ЮБІЛЯРАЎ

# ГРАМАДЗЯНІН СВЕТУ

Барысу Уладзіміравічу Кіту, амаль равесніку XX ст., 6 красавіка спаўняецца 90 гадоў. Землякі, якія сустракаюцца з ім у Франкфурце-на-Майне, дзе цяпер жыве славуты беларус, аднадушна называюць нашага суайчынніка, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, сябра многіх еўрапейскіх акадэмій і навуковых таварыстваў, прафесара Вашынгтонскага універсітэта, грамадзянінам планеты. Ён чвэрць стагоддзя ўдзельнічаў у амерыканскіх касмічных даследаваннях, першым разлічыў прынцыпы выкарыстання вадароду як паліва для касмічных ракет, аб'ездзіў з лекцыямі амаль усе краіны свету. Яго статус грамадзяніна планеты вызначае не толькі род дзейнасці, але і светапогляд чалавека, які з вышыні пражытага і перажытага разумее і бачыць недаступнае позірку звычайных людзей. Ён сведка і ўдзельнік многіх вызначальных падзей, што адбываліся на планеце ў XX ст. Але ўсе гэтыя падзеі Барыс Кіт нязменна суадносіць з жыццём сваёй адзінай Бацькаўшчыны. Ён часта любіць паўтараць: "Усё, што я зрабіў, — для Беларусі". Неласкавай, непрыветнай часта была яна для сваіх таленавітых сыноў. Барыс Уладзіміравіч неаднойчы гаварыў мне, што ў СССР яго жыццё заўчасна скончылася б у ГУЛАГу. І ён зрабіў свой выбар — не прыняў сталінскай таталітарнай сістэмы, пайшоў у выгнанне, добра разумеючы, што не Бацькаўшчына была вінавата ў гэтым, бо і сама яна жыла пад рознымі акупацыямі, што не давалі беларусу быць гаспадаром на ўласнай зямлі. Ён, як і многія беларусы, вымушаныя пакінуць айчыну і перайначваць свой лёс далёка за яе межамі, заўсёды памятаў Скарынавы словы: "Людзі, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ёсць, да таго месца вялікую ласку маюць…"



Барыс Кіт, дзяцінства і юнацтва якога прайшло ў найпрыгажэйшых гістарычных мясцінах Беларусі (Навагрудак, Карэлічы, Мір), пасля заканчэння фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта стаў настаўнікам, асветнікам і гэтаму прызванню аддаў усё сваё жыццё. Прабыўшы больш за паўвека за межамі Беларусі, валодаючы еўрапейскімі мовамі, ён толькі беларускую прызнае роднай, увесь час размаўляе на ёй, лічыць яе самай прыгожай, мілагучнай, здатнай канкурыраваць з асноўнымі еўрапейскімі. І цяпер, нягледзячы на цяжкае становішча Бацькаўшчыны, ён, мудры, сталы чалавек,

памятаючы ўсе складаныя перыяды беларускай і сусветнай гісторыі, верыць у жыццястойкасць радзімы, яе светлыя перспектывы. Не можа знікнуць старажытная нацыя ў цэнтры Еўропы!

Беларусам заўсёды нялёгка жылося, шмат чаго давялося ім паспытаць, акрамя хіба што аднаго — добрага, спакойнага, заможнага жыцця. Барыс Кіт змог даказаць усім нам, што чалавек сам творыць свой лёс. Ратуючыся ад сталінскай дыктатуры, паспытаўшы, што такое паланізацыя, русіфікацыя, фашысцкая акупацыя, пры якой, трапіўшы ў рукі гестапа, ён ледзь не загінуў, у канцы 40-х вучоны стаў грамадзянінам ЗША. Дзякуючы лепшым рысам беларускага характару — цярплівасці, працавітасці, добразычлівасці, настойлівасці ў дасягненні мэты, ён не згубіўся ў чужамоўным свеце, пражыў прыгожае, цікавае, багатае на падзеі, сустрэчы, вандраванні, знаёмствы жыццё, матэрыяльна забяспечанае і нават заможнае. Але праз доўгія гады ён усё ж пранёс вернасць радзіме, мове, нацыянальнай гісторыі, быў і застаўся беларусам.

На пачатку 90-х гг., калі Беларусь стала незалежнай, ён адным з першых прыехаў на радзіму, пачаў як настаўнік (на сустрэчу з ім у 1992 г. зляцеліся яго шматлікія былыя вучні з Вільні, Мінска, Навагрудка, Паставаў, Глыбокага, Маладзечна, Гродна) ажыццяўляць планы стварэння (па тыпу еўрапейскіх) Беларускага нацыянальнага універсітэта. Разам са сваім адвакатам разаслаў сотні лістоў-праспектаў фундацыям у пошуках спонсараў. Але затым многае ў Беларусі зноў змянілася. І ўсё ж Барыс Уладзіміравіч лічыць, што свет, у тым ліку і Беларусь, прыйдзе да сапраўднай дэмакратыі, бо новае тысячагоддзе нясе надзею на лепшую будучыню, якую збудуюць новыя пакаленні. Самае галоўнае — захаваць Беларусі сваю незалежнасць, жыць у добрай згодзе з усімі краінамі.

Барыс Кіт — не палітык, ён ніколі не належаў ні да якіх партый і груповак. Але як чалавек, вучоны, прыроджаны педагог ён мае магчымасць параўноўваць, супастаўляць і можа прыкладам свайго жыцця засведчыць, якія розныя ўмовы для звычайнага жыхара планеты даюць розныя сістэмы. Шмат цікавага, доказнага знаходзім у разважаннях, філасофіі нашага суайчынніка — толькі паспявай запамінаць, запісваць, што і робяць яго шматлікія госці-беларусы, якія бываюць у Нямеччыне, завітваюць да Барыса Кіта ў Франкфурт. Пра яго напісана больш двухсот артыкулаў, яму прысвечаны вершы (В. Іпатава, Р. Барадулін), яму дораць кнігі (В. Быкаў, Н. Гілевіч, С. Законнікаў, Н. Мацяш, У. Арлоў). Сярод яго былых вучняў — вядомыя ў Беларусі людзі (прафесар медыцыны П. Кузюковіч, акадэмік А. Раковіч, мастак К. Харашэвіч, нядаўна памерлы літаратуразнавец У. Калеснік). Яго імя згадваецца ў ліку славутасцей Беларусі (п’еса А. Петрашкевіча “Інтэлігенты”, артыкул А. Грыцкевіча “Славутыя імёны Беларусі”). Ён стаў ганаровым грамадзянінам Навагрудка, дзе некалі вучыўся, узначальваў гімназію, вучыў дзяцей, ганаровым прафесарам Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы. З юбілеямі яго віншуе прэзідэнт Амерыкі.

І ў 2000-м, юбілейным годзе Барыса Кіта мы, беларусы, нязменныя прыхіль-

нікі, віншуем яго з чарговым днём нараджэння, жадаем моцнага здароўя. Мы ўпэўнены, што імя і справы выдатнага сына Беларусі застануцца ў гісторыі Бацькаўшчыны.

***Лідзія Савік**, аўтар кнігі*
*"Космас беларуса. Жыццяпіс Б. У. Кіта — вучонага, асветніка, патрыёта"*

## ПАЭТ, ЛЕКАР, ГУМАНІСТ

У 1989 г. у Мантыселе (ЗША) Мацвеем Рэпкавым-Смаршчком быў выдадзены зборнік "Адзінаццаць вершаў" Анатоля Бярозкі з паралельным тэкстам на беларускай і англійскай мовах. І толькі спецыялісты ведалі, што перад імі — своеасаблівая літаратурная містыфікацыя, што і выдавец, і аўтар — адна і тая ж асоба. Анатоль Бярозка — беларускі паэт, чыя творчасць пачалася яшчэ да вайны ў Заходняй Беларусі. З 1933 г. яго вершы з'яўляліся ў віленскім друку. А Мацвей (Мітрафан) Смаршчок — знакаміты амерыканскі лекар, заслужаны доктар медыцыны. Яго імем названы (пры жыцці!) адзін з карпусоў медыцынскага комплексу ў г. Мантысела (штат Мінесота).



Мацвей Смаршчок, вядомы ў літаратуры пад псеўданімам Анатоль Бярозка, нарадзіўся 75 год таму назад, 19 лютага 1915 г., у вёсцы Падлессе цяперашняга Баранавіцкага раёна. У Баранавічах скончыў гімназію і ліцэй, пачаў вучыцца ў Віленскім універсітэце. З першай ваеннай хваляй эміграцыі апынуўся ў Германіі, а затым у ЗША. Там стаў вядомы сваёй бескарыслівай гуманітарнай дзейнасцю. Сустракаецца з беларускімі дзецьмі, якія выязджаюць у ЗША на лячэнне пасля аварыі ў Чарнобылі, дапамагае ім.

У музейнай экспазіцыі "Беларусы ў свеце", якая існуе ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, ёсць бюст А. Бярозкі, створаны скульптарам У. Летуном.

Беларускае таварыства дружбы рыхтуе вечарыну, прысвечаную юбіляру.

***Ірына Багдановіч**, кандыдат філалагічных навук*

## СЯБРА "БЕЛАВЕЖЫ" З ПЕРШЫХ ГОД ЯЕ ІСНАВАННЯ

Нягледзячы на свой паважны ўзрост, Віктар Швед застаецца па-ранейшаму няўрымслівым — у творчасці, у жыцці. Яго вершы друкуюцца ледзь не ў кожным нумары беластоцкага штотыднёвіка "Ніва", на сустрэчы з ім збіраюцца вучні беларускіх школ і ліцэяў Беласточчыны, яго можна сустрэць на навуковых канферэнцыях і "круглых сталах". І ўсюды яму, дасведчанаму чалавеку і таленавітаму паэту, ёсць што сказаць.

Віктар Швед нарадзіўся 75 год таму назад, 23 сакавіка 1925 г. у вёсцы Мора Беластоцкага ваяводства ў сялянскай сям'і. Скончыў Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім, аддзяленні журналістыкі і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Доўгі час працаваў у варшаўскім выдавецтве "Ксёнжка і ведза".



Беларускія вершы Віктар Швед пачаў пісаць яшчэ ў школе, у 1940 г., тады ж удзельнічаў з імі ў алімпіядзе дзіцячай творчасці. Друкавацца пачаў у 1957 г. на старонках штотыднёвіка "Ніва", затым — у літаратурных альманахах, "Беларускіх календарах". Выдаў зборнікі вершаў "Жыццёвыя сцежкі" (1967), "Дзяцінства прыстань" (1975), "Дружба" (1976), "Мая зялёная Зубровія" (1990), "Вясёлка" (1991) і інш. Адрасаваны яны пераважна юнаму чытачу. Выхаваны на традыцыях беларускай класічнай літаратуры, Віктар Швед працягвае іх на Беласточчыне: паэтызуе паўсядзённы побыт селяніна, повязь дзіцячых адчуванняў з гарманічным светам прыроды.

Віктар Швед уносіць істотны ўклад ва ўзаемадзеянне літаратур. Ён перакладае беларускія, рускія і ўкраінскія вершы на польскую мову, а польскія — на беларускую. У працы, напэўна ж, сустрэне і свой юбілей.

*__Уладзімір Казбярук__, кандыдат філалагічных навук*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

У канцы мінулага года ў Маскве адбылося пасяджэнне Генеральнай асамблеі Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, якую ўзначальвае вядомы беларусіст Яўген Шыраеў. Цяпер яна налічвае каля 500 сяброў з розных краін, у тым ліку каля ста беларусаў. На асамблеі адбыліся выбары. Правадзейным сябрам стаў гісторык Анатоль Грыцкевіч, сябрамі-карэспандэнтамі — беларусісты Мікалай Нікалаеў (Санкт-Пецярбург) і Іван Штэйнер (Гомель).

***Алесь Разанаў***

## ВІНШАВАННЕ

*Норберту Рандаву*

З чараю чароўнаю віна
Ў крузе гаманы і задумення
Аб’яўляе сёння навіна,
Дзелячыся ім, тваё найменне.

Слова вострыць гук свой аб твой слых.
Месяц месіць над табой падкову.
Першароднай шчодрасці на ўсіх,
З кім знаёмства зводзіць, дастаткова.

Цягнікі паўзуць, як слімакі.
З самалёта аглядаеш дахі.
Бусел, грак, сарока — ў сваякі
Да цябе запісваюцца птахі.

Думкі ўладна час раўняў пад шнур.
Хто сабою быў — плаціў даніну.
І знікаў з вачэй пануры мур,
Каб тваю адсветліць гадавіну.

Дзень руплівы вабіцца ў прыліў,
Вольніца ад спрэчак і прытокаў.
З далечы, якую адтуліў,
Для цябе спявае Эўрыдыка.

Дзякуй за размовы і лісты,
За сустрэчы… Мкліваю хадою
Ты ідзеш (ці мо вядзеш масты?!.),
Заручоны з доляй маладою.

Ў кнігу уваходзіш навасёлам.
Падаю табе, як сябруку:
З днём анёла, Норберт!
З днём анёла!!!

*Берлін, лістапад 1999*

Верш быў напісаны з нагоды 70-годдзя вядомага нямецкага славіста, перакладчыка з беларускай мовы Норберта Рандава, пра якога мы пісалі ў папярэднім нумары “Кантактаў і дыялогаў”.



## ХРИСТИЯНСТВО И НАЦІОНАЛЬНА ІДЕЯ. ТЕРНОПІЛЬ: УКРМЕДКНИГА, 1999. 179 с.

Для ўсіх хрысціянскіх народаў свету духоўна-рэлігійныя і этычна-маральныя прынцыпы, ідэі вучэння хрысціянства з’яўляюцца асноватворнымі. Аднак, рэальна функцыянуючы ў пэўным этнічным асяроддзі, у рамках нацыянальных дзяржаў, хрысціянства было вымушана змяніць іх этнічную спецыфіку. Таму як устаноўка і адначасова як засцярога гучаць словы Хрыста: “Ідзіце, таму, і зрабіце вучнямі ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа; навучаючы іх зберагаць усё, што я вам завяшчаў” (Мт. 28: 19–20).

Навуковы зборнік, які тут рэцэнзуецца, прысвячаецца 2000-годдзю з Нараджэння Хрыстова і змяшчае матэрыялы Міжнароднага сімпозіума “Хрысціянства і нацыянальная ідэя”, які праходзіў у кастрычніку 1999 г. на базе Цярнопальскай дзяржаўнай медыцынскай акадэміі імя І. Гарбачэўскага з удзелам вучоных Украіны, Польшчы і Беларусі, зацікаўленай інтэлігенцыі, багасловаў (украінскіх і з Канады), духавенства.

Першы раздзел зборніка прысвечаны аналізу рэлігійнага фактару ў нацыянальным адраджэнні Украіны. Рэлігія і нацыя як важныя грамадскія феномены знаходзяцца ў надзвычайна складаных узаемаадносінах. Добра вядома, што рэлігія, не будучы дэтэрмінантай і абавязковай складовай часткай этнічных супольнасцей, іх нацыянальнай самасвядомасці, можа выступаць у ролі важнейшага, нават вырашальнага модуса этнатварэння, этнаінтэграцыі, а часам і этнадэзінтэграцыі. Гэтыя праблемы закранаюць прафесары А. Калодны (“Андрэй Шаптыцкі пра будаўніцтва Роднай Хаты”) і П. Яроцкі (“Прадбачлівы крок царквы ў III тысячагоддзе”). Хрысціянскаму вектару знешнепалітычнай стратэгіі Украіны прысвечаны грунтоўны артыкул С. Сёміна, старшага кансультанта аддзела гуманітарных і палітычных даследаванняў Нацыянальнага інстытута стратэгічных даследаванняў. Аўтар адзначае, што “са сваімі гістарычнымі, культурнымі, а галоўнае, сацыяльнымі асновамі Украіна мае ўсе падставы прэтэндаваць на вядучае месца ў сусветным праваслаўі, персанальнае членства ў Сусветнай Радзе цэркваў і іншых экуменічных арганізацыях”. І сёння, дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў сусветным руху за аб’яднанне хрысціянскіх цэркваў, Украіна можа значна ўзняць свой міжнародны аўтарытэт, выйсці на якасна новы ўзровень міждзяржаўнага супрацоўніцтва. Яскравым прыкладам “экуменічнага патэнцыялу” з’яўляецца ўдзел пяці ўкраінскіх хрысціянскіх цэркваў і канфесій ў рабоце II Еўрапейскай асамблеі, якая праходзіла ў г. Грац (Аўстрыя) у ліпені 1997 г. Указаная праблематыка мае асаблівае значэнне і для Беларусі ў сувязі з яе шматканфесійнасцю.

Другі раздзел зборніка прысвечаны аналізу стану, праблем і перспектыў узаемасувязі нацыянальнага і рэлігійнага. М. Братасюк, доктар філасофскіх навук, прафесар Цярнопальскай акадэміі народнай гаспадаркі, у артыкуле “Хрысціянства як кансалідуючы фактар” прыводзіць цікавыя і пераканальныя прыклады ўплыву хрысціянства на нацыянальную гісторыю Еўропы, адзначае, што ўкраінцы маюць вялікую патрэбу ў фактары, які змог бы кансалідаваць іх нацыю. “Добра было б, — сцвярджае аўтар, — каб такім аб’ядноўваючым фактарам стала ў нас хрысціянства, аднак для пачатку яму самому трэба паклапаціцца пра еднасць і цэласнасць у самім сабе”.




“… хрысціянства прапануе чалавецтву новую парадыгму і этнічнага, і рэлігійнага развіцця, якая была б накіравана перш за ўсё на зберажэнне унікальнасці кожнай нацыі, здольнасць народаў мірна суіснаваць у сусветнай этнічнай прасторы. Апошняе магчыма на хрысціянскіх прынцыпах”, — так заканчвае свой артыкул кандыдат філасофскіх навук, старшы навуковы супрацоўнік Аддзялення рэлігіязнаўства Інстытута філасофіі імя Г. Скаварады НАН Украіны Л. Філіповіч (с. 48).

Цікавымі назіраннямі ў сваіх артыкулах дзеляцца польскія вучоныя-рэлігіязнаўцы. Р. Лягутка аналізуе ўзаемаадносіны палітычнай і рэлігійнай супольнасцей, Б. Грот — каштоўнасці рыма-каталіцкай рэлігіі як фактару нацыянальнай ідэалогіі ў поглядах польскіх нацыяналістаў. Артыкул В. Каўтэ прысвечаны аналізу традыцый і сучаснага стану хрысціянства і палітычнай культуры ў краінах Цэнтральнай Еўропы.

“Роля рэлігіі ў нацыянальным самавызначэнні дзяржавы” — пад такой назвай згрупаваны матэрыялы трэцяга раздзела. Роля дзяржавы і рэлігіі ў гістарычнай эвалюцыі этнічных з’яваў, у працэсах этнаінтэграцыі і этнаіндывідуалізацыі такая значная, што яшчэ нядаўна “сапраўднай рэлігіяй” выступаў культ уласнай нацыянальнасці, уласнай дзяржавы. Аб’яднанне нацыянальнага культу з рэлігійным быццам засведчыла сваю “прысутнасць” у рэлігійным комплексе і такім чынам выконвала ролю фактару сцвярджэння рэлігіі і царквы як нацыянальных складовых частак грамадскага арганізма.

Вядомы ўкраінскі рэлігіязнаўца А. Гудзіма аналізуе факталагічныя прынцыпы ідэі нацыянальнай царквы ў кантэксце гісторыі і духоўнасці свайго народа, выдзеліўшы пры гэтым вызначальныя прыярытэты: гістарычны, геаграфічны, этнакультурны, палітычны, лінгвістычны і дэмаграфічны (с. 88). Заслугоўвае

ўвагі і спроба аўтара ўдакладніць, да чаго абязвае ўвасабленне ідэі нацыянальнай царквы на Украіне. Вядомы ўкраінскі філосаф М. Кубаеўскі з пазіцый філасофска-паліталагічнага сінтэзу грунтоўна разглядае суадносіны ўкраінскай нацыянальнай ідэі і ідэі рэлігійнай. Аўтар падводзіць да думкі, што калі канчатковай мэтай для ўкраінскай нацыянальнай ідэі з'яўляецца пабудова Украінскай саборнай незалежнай дзяржавы, то для рэлігійнай ідэі — усенацыянальнай царквы. Увасабленне ў жыццё ўкраінскай нацыянальнай ідэі цесна звязана з глыбокім усведамленнем і практычнай рэалізацыяй як нацыянальнага, так і хрысціянскага ідэалаў.

Дахрысціянскія веравызнанні ва ўкраінскіх хрысціянскіх традыцыях даследуе ў сваёй працы прафесар В. Сулько. Праблемы нацыянальнай культуры і самасвядомасці ў гісторыі фарміравання этнаканфесійнай сітуацыі ў Беларусі на багатым фактычным матэрыяле разглядае А. Верашчагіна, навуковы супрацоўнік аддзела этналогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі.

Рэлігійны фактар, на думку аўтараў раздзела, сам па сабе ніколі не быў на Украіне вызначальным у працэсах этнатварэння і этнаінтэграцыі, нацыянальнага адраджэння. Прыярытэт тут заўсёды належаў нацыянальнай ідэі. На поліканфесійнай Украіне падыход да ўзроўню нацыянальнай ідэі як прыярытэтнага прынцыпу гарантуе падыход да канфесійнай рознасці як да нечага пераходнага, не асноўнага ў грамадскім і рэлігійным працэсах, пераконвае ў тым, што *Украіна адна* для тых, хто хоча яе адраджэння, і *Бог адзін* для тых, хто верыць у яго.

Матэрыялы апошняга раздзела, "Канфесійныя вымярэнні нацыянальнай ідэі", ахопліваюць шматлікія аспекты і прадстаўляюць разнастайныя канцэпцыі дадзенай праблемы ў розны гістарычны час. Гэта — найбольш "прадстаўнічы" раздзел: яго змест складаюць артыкулы дванаццаці аўтараў не толькі з Украіны (Кіеў, Роўна, Хмяльніцкі, Цярнопаль), але і з Польшчы, Беларусі. Сярод іх — артыкулы кандыдата гістарычных навук, супрацоўніка Цэнтра гуманітарных праблем Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта РБ А. Гурко "Неаязычніцтва ў Беларусі: у пошуках нацыянальнай ідэі", дацэнта Цярнопальскага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта імя І. Пулюя Г. Стронскага "Рыма-каталіцкі касцёл і нацыянальнае адраджэнне палякаў на Украіне", В. Батара "Рэлігія як падтрымліваючы фактар венгерскай нацыянальнай свядомасці" (Інстытут рэлігіязнаўства Ягелонскага універсітэта, Кракаў, Польшча) і інш.

Прадстаўлены ўвазе чытачоў навуковы зборнік узнімае надзвычайна актуальную і важную праблему ролі рэлігійнага фактару, у прыватнасці, хрысціянства, у нацыянальным адраджэнні Украіны, практычнага забеспячэння свабоды рэлігіі ў посттаталітарным грамадстве і інш. У матэрыялах выказваецца занепакоенасць фактамі актывізацыі на сучаснай Украіне дэнацыяналізатарскай ролі

рэлігійнага фактару (неарэлігіі, УАПЦ Маскоўскага патрыярхата і г. д.), якая праяўляецца ў моўнай палітыцы, культывацыі нехарактэрных для ўкраінцаў вартасцей. Калектыў аўтараў ці не ўпершыню ва ўкраінскай рэлігіязнаўчай літаратуры так аргументавана даследуе такую важную грамадскую праблему, як “хрысціянства і нацыянальная ідэя”.

***Фёдар Мядзведзь**, кандыдат філасофскіх навук,*
*дацэнт Львоўскага інстытута ўнутраных спраў пры НАУС Украіны*

*Пераклад з украінскай мовы* ***Ірыны Тамільчык***

## МІРАНОВІЧ ЯЎГЕН. НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ. БЕЛАСТОК: “НІВА”, 1999. 270 с.




Заўсёды бывае вельмі радасна на душы, калі ў іншых краінах свету выходзяць новыя кнігі, часопісы, газеты, у якіх змешчаны розныя матэрыялы па гісторыі Беларусі, па беларускай мове, культуры. І вось нядаўна такая прыемная навіна прыйшла з памежнага польскага Беластока, дзе выдадзена манаграфія “Навейшая гісторыя Беларусі” вядомага беларуса і беларусіста Яўгена Мірановіча. Неабходна дадаць, што аўтар гэтай кнігі з’яўляецца доктарам гістарычных навук, прафесарам, доўгі час быў галоўным рэдактарам штотыднёвіка “Ніва”, ён мае шэраг публікацый па пытаннях гісторыі Беларусі, становішча беларусаў у Польшчы, беларуска-польскіх узаемаадносін у XX ст. і інш.

У дадзенай кнізе даследчык рознабакова разглядае пытанні сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага і духоўна-культурнага развіцця беларускага грамадства на працягу XIX–XX стст. Асаблівую ўвагу аўтар канцэнтруе на савецкім перыядзе гісторыі нашай краіны. У аўтарскай прадмове адзначана, што ў “польскай гістарыяграфіі гісторыя Беларусі на фоне іншых суседзяў Польшчы займае выключна мала месца”. Таму выглядае цалкам лагічным і заканамерным, што навуковец выравшыў запоўніць (прынамсі, хаця б часткова) гэтую своеасаблівую “белую пляму” польскай гістарычнай навукі.

Я. Мірановіч пачынае сваё манаграфічнае даследаванне з разгляду праблем фарміравання беларускай нацыянальнай ідэі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. На яго погляд, у працэсе выспявання беларускай нацыянальнай ідэі адыгралі значную ролю плённая дзейнасць Беларускай сацыялістычнай грама-

ды (БСГ), газеты “Наша ніва”, розных літаратурных, выдавецкіх, культурна-асветніцкіх суполак, якім часта даводзілася сустракацца з насцярожанасцю (а часам і з адкрытай непрыхільнасцю) некаторых расійскіх і польскіх груповак.

Аднак асаблівую ўвагу польскі і беларускі даследчык канцэнтруе на савецкім перыядзе гісторыі Беларусі. У кнізе даволі падрабязна расказваецца пра стварэнне і вынікі дзейнасці БНР, а затым БССР. Пры гэтым аўтар падкрэслівае, што хаця БНР існавала больш як ідэя, чым рэальнае палітычнае стварэнне, аднак яе абвяшчэнне стала сапраўдным каталізатарам стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці.

Як высокакваліфікаваны навуковец многія падзеі і з’явы гістарычнага развіцця Беларусі ў XX ст. аўтар разглядае дыялектычна, living рознабакова. Напрыклад, на аснове ўважлівага аналізу ён спрабуе паказаць не толькі асобныя станоўчыя, але і відавочныя адмоўныя рысы такіх сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных мерапрыемстваў, як беларусізацыя, індустрыялізацыя, калектывізацыя, новая эканамічная палітыка (нэп) і інш. Закранаючы пытанне барацьбы ў канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. з т. зв. “беларускім буржуазным нацыянал-дэмакратызмам”, аўтар прыходзіць да высновы, што гэтая кампанія была штучна арганізавана вышэйшым партыйным кіраўніцтвам і прывяла да расправы з беларускай нацыянальнай элітай, з сапраўднымі творцамі тагачаснай беларускай культуры, з найбольш актыўнымі праваднікамі палітыкі беларусізацыі. На працягу 1930-х гг. у выніку правядзення сталінскай мадэрнізацыі савецкай гаспадарчай сістэмы найбольш пацярпела, на думку даследчыка, беларускае сялянства, якое фактычна падвяргалася прымусовай калектывізацыі. Безумоўна, у кнізе закранаюцца і такія адмоўныя грамадскія падзеі, што нанеслі найбольшы маральны і фізічны ўрон беларускаму грамадству, як усталяванне культу асобы Сталіна, барацьба са шматлікімі “ворагамі народа”, масавыя палітычныя рэпрэсіі 30-х – пачатку 50-х гг.

Я. Мірановіч аб’ектыўна паказвае становішча беларусаў у тыя два дзесяцігоддзі, калі беларускія землі часткова ўваходзілі ў склад II Рэчы Паспалітай. У гэтым раздзеле кнігі разглядаюцца асаблівасці стаўлення да беларускай справы польскіх уладаў, прадстаўнікоў розных мясцовых палітычных партый (КПЗБ, Беларуская грамада, Беларуская хрысціянская дэмакратыя) і грамадскіх, культурна-асветных арганізацый. У кнізе ідзе таксама гаворка пра сутнасць і вынікі нямецкай акупацыі Беларусі ў час Другой сусветнай вайны, пра асаблівасці партызанскага руху, колькасць і памеры ваенных, гаспадарчых і чалавечых страт, а таксама пра спецыфіку аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі, адметныя рысы развіцця беларускай культуры ў пасляваенны перыяд, спробы рэфармавання таталітарнай сістэмы ў час “хрушчоўскай адлігі” і інш. Аўтар адзначае, што на працягу другой паловы 60-х – 70-х гг., калі партыйным кіраўніком Беларусі быў П. Машэраў, наша рэспубліка змагла выйсці на перадавыя пазіцыі ва ўсім СССР па ўзроўню развіцця народнай гаспадаркі, хаця ў той жа час, па сутнасці, працягвалася палітыка русіфікацыі беларускага

грамадства. Большасць адукацыйных і культурна-асветных устаноў працавалі тады на рускай мове, у паўсядзённым жыцці мясцовых жыхароў (найперш гараджан) беларуская мова практычна не выкарыстоўвалася і да т. п.

Аўтар аналізуе асобныя спробы савецкага кіраўніцтва пераадолець крызісныя з'явы ў сферы эканамічнага і культурнага жыцця грамадства. Я. Мірановіч апавядае ў манаграфіі пра паступовае нарастанне гаспадарчага крызісу ў 70–80-я гг., пра прычыны і наступствы т. зв. "перабудовы", пра развал СССР і стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Разгляд гісторыі Беларусі даведзены аўтарам амаль што да нашых дзён, дакладней, да канца 90-х гг., калі наша краіна развіваецца (зразумела, нярэдка з прыкметнымі цяжкасцямі і праблемамі) ужо як самастойная, незалежная дзяржава.

Сярод недахопаў дадзенага выдання можна адзначыць тое, што ў ёй практычна нідзе няма спасылак на крыніцы і выкарыстаную літаратуру. Хацелася б падкрэсліць, што традыцыйна ў гістарычнай навуцы "навейшым часам" называецца перыяд з пачатку XX ст. да сённяшніх дзён, а аўтар кнігі пачынае разгляд навейшай гісторыі Беларусі ажно з часоў далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. Таму ў дадзеным выпадку атрымліваецца своеасаблівая "нестыкоўка" паміж агульнапрынятым і аўтарскім падыходам да вызначэння храналагічных межаў навейшага часу. Магчыма, не з усімі аўтарскімі ацэнкамі асобных гістарычных падзей можна цалкам пагадзіцца, аднак кожны даследчык мае поўнае права выказваць свае ўласныя меркаванні і думкі, адстойваць свой уласны пункт погляду.

У цэлым жа кніга атрымалася надзвычай цікавая і змястоўная. Большасць зробленых у ёй высноў падмацаваны шматлікімі аргументамі і фактамі. Таму кнігу можна з упэўненасцю параіць усім тым зацікаўленым чытачам, хто раней ужо вывучаў, актыўна вывучае цяпер ці яшчэ толькі збіраецца вывучаць у будучым надзвычай багатую спадчыну шматпакутнага беларускага народа.

Рэдкалегія "Кантактаў і дыялогаў" вылучыла даследаванне Яўгена Мірановіча на штогодны конкурс польскага квартальніка "Przegląd Wschodni".

***Эдуард Дубянецкі**, кандыдат гістарычных навук*

## ARNOLD MCMILLIN. BELARUSIAN LITERATURE IN THE 1950th AND 1960s. KÖLN; WIEN: BÖHLAU, 1999. 315 p.

Кнігу Арнольда Макміліна "Беларуская літаратура 1950 і 1960 гг." я атрымаў ад аўтара, вядомага англійскага беларусіста, прафесара Лонданскага універсітэта, на вечарыне, прысвечанай беларуска-англійскаму культурнаму ўзаемадзеянню. Адбылася яна ў Беларускім доме дружбы ў канцы мінулага года. Арнольд Макмілін быў яе ганаровым госцем. Перад пачаткам вечарыны падышлі мы да кніжнай выстаўкі, арганізаванай Цэнтрам імя Ф. Скарыны, знайшлі там яго папярэднюю кнігу — "Гісторыя беларускай літаратуры ад вытокаў да сённяшніх дзён", выдадзеную ў Гесэне (Германія) у 1977 г. на англійскай мове, знайшлі

першую беларускую рэцэнзію, напісаную на яе І. Навуменкам, М. Мушынскім і мной. Пад назвай “Аб’ектыўнае і тэндэнцыйнае” (назва дзесьці ўзгаднялася і лічылася занадта “мяккай”) яна была апублікавана ў “Полымі” толькі праз тры гады пасля выхаду кнігі. І хтосьці з прысутных спытаў у нас, а чаму ж так доўга марудзілі тады з водгукам?

Давялося згадаць тыя “падцэнзурныя” часы. Праз кагосьці з сяброў я атрымаў тады кнігу А. Макміліна — па сутнасці, гэта была першая кніга па гісторыі беларускай літаратуры, выдадзеная ў Заходняй Еўропе (кампілятыўнае выданне італьянца Дж. Месіны, мусіць, браць у разлік не даводзіцца). Асабліва цікавымі здаліся мне разважанні пра нашу літаратуру XIX ст. І я пайшоў у“Полымя” з прапановай напісаць з кімсьці, спецыялістам па XX ст., рэцэнзію. Але ў рэдакцыі, нягледзячы на ўсю добразычлівасць, сумніцельна пакруцілі галовамі: хто яго ведае гэтага аднафамільца англійскага прэм’ера, можа, які саветолаг ці нават “бебурнацы”. Таму, каб прабіць рэцэнзію, патрэбны салідныя сааўтары, не заплямленыя аніякай крамолай. І яны неўзабаве знайшліся. Падзялілі мы кнігу на тры храналагічныя часткі. Мне дасталася “дакастрычніцкая” частка. Пісалася адносна лёгка, бо канцэпцыя тут не вельмі рознілася ад нашай. Куды цяжэй было маім сааўтарам: тут і БНР, і рэпрэсіі, і “кодла” пісьменнікаў-эмігрантаў, і Гарун, і Ластоўскі, і шмат хто яшчэ, на каго тады было накладзена табу. Рэцэнзія пісалася і перапісвалася, крэслілася і скарачалася, рэдагавалася і ўзгаднялася. І ўсё ж нам удалося адваяваць тое, каб аўтар не абвінавачваўся ў больш смяротных грахах, чым “буржуазны аб’ектывізм” (потым іншыя рэцэнзенты пісалі і не такое). Аднак і такая “далікатная” і адначасова недарэчная (з сённяшніх пазіцый) фармуліроўка выклікала дзікі рогат у А. Макміліна, надзеленага тыпова англійскім гумарам, калі ўпершыню ён прыехаў у Мінск на ЮНЕСКАўскую канферэнцыю па барока (1982). У адказ я парыраваў: не было б “буржуазнага аб’ектывіста” — не было б і рэцэнзіі. Потым мы не раз сустракаліся і ў Лондане, і ў Мінску, і на розных славістычных кангрэсах. І заўсёды англійскі калега пацвельваў з мяне: а што гэта такое, той “буржуазны аб’ектывізм”? Тады мусіць быць і аб’ектывізм савецкі…

Потым на нейкі час А. Макмілін адышоў ад беларускай праблематыкі, заняўся рускай эміграцкай літаратурай, але за нашымі навінкамі сачыў, кніжкі збіраў. І вось вынік: працяг папярэдняй гісторыі, дваццаць гадоў літаратурнага развіцця, якіх не было ў ранейшым выданні.

Якое ж галоўнае вызначэнне напрошваецца цяпер? Відаць, гэта суб’ектыўнасць. Раней, можа, рэцэнзента прымусілі б гэта назваць “буржуазным суб’ектывізмам”. Але цяпер бачыцца мне звычайная, нармальная для літаратуразнаўца суб’ектыўнасць, г. зн. свой погляд на літаратуру і на асобныя творы, свае сімпатыі і антыпатыі. Іншы даследчык акцэнтаваў бы ўвагу на іншых фактах, але гэта была б ужо іншая гісторыя — не макмілінаўская, дзе добразычлівасць і спагадлівасць (нават да зададзенасці і рыторыкі 50-х гг.) спалучаюцца з дыстанцыянаванасцю і нават з сарказмам. Усё гэта спалучаецца ўжо ў першых сказах

“Уводзін”: “Гісторыя была нядобразычлівай да Беларусі. Сапраўды, у пэўныя перыяды ёй рашуча адмаўлялі ў праве мець увогуле хоць якую-небудзь уласную гісторыю. Таму другое і, будзем спадзявацца, апошняе абвяшчэнне незалежнасці […] (следам за БНР у 1918 годзе, але тая праіснавала нядоўга) было для беларускага народа рубяжом відавочнага і агромністага значэння. У той час, калі я пішу гэтыя словы, працягваецца барацьба за сапраўдную, а не намінальную незалежнасць, і палітычныя падзеі, якія дзесяцігоддзямі вялі да сённяшняга стану рэчаў, моцна паўплывалі на літаратурны працэс, а сама беларуская літаратура, у сваю чаргу, прыкметна паўплывала на палітычныя падзеі, прыспешвала іх, як гэта было і ў Расіі, і ў шмат якіх іншых частках былога СССР” (пераклад цытат тут і далей Юрася Жалезкі). Але былі і істотныя адрозненні. Напрыклад, у Беларусі не было, прынамсі, знешне, “такога выбуху рэфарматарскіх ідэй, які мы назіралі ў Расіі пасля выхаду артыкула Уладзіміра Памяранцава”.




Далей аўтар абгрунтоўвае структуру сваёй кнігі, прызнае пэўную штучнасць і суб’ектыўнасць ва ўціскванні аўтараў толькі ў якое-небудзь адно з двух дзесяцігоддзяў. Але аўтары-“пяцідзесятнікі” не знікаюць з поля зроку даследчыка, яны прысутнічаюць хаця б ва ўступным раздзеле другой часткі, іх лёгка адсачыць па імянному паказальніку.

У частцы “Пяцідзесятыя — выхад з цемры” даецца падрабязная характарыстыка паэзіі, прозе і драматургіі. Асобна вылучаецца творчасць Сяргея Дзяргая, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна, Максіма Танка, Яна Скрыгана, Янкі Брыля, Івана Шамякіна. Даецца асобны “Партрэт Васіля Быкава”.

Літаратура 60-х гг. разглядаецца больш дыферэнцыравана і падрабязна. Гэта— “час надзеі”, “традыцый і інавацый”. Вылучаецца арыгінальнасцю падыходаў падраздзел “Смерць у жыцці і ў мастацтве” (пра паэзію Сымона Блатуна, Леаніда Якубовіча і Анатоля Сербантовіча). Асобныя падраздзелы прысвечаны прозе Івана Мележа (“Вернутая эпіка”), Васіля Быкава (“Боль праўды”), Івана Пташнікава (“Суровая лірычнасць”), Уладзіміра Караткевіча (“Рамантычнае перапісванне гісторыі”).

Бачанне А. Макміліным важнага адрэзка гісторыі беларускай літаратуры безумоўна заслугоўвае больш падрабязнага, спецыяльнага разгляду. Тут жа падкрэслім, што кніга вызначаецца высокай даследчыцкай культурай. Асабліва

гэта датычыцца цытавання і спасылак, навуковага апарата. Вершаваныя цытаты падаюцца ў тэксце ў беларускім арыгінале, а ў спасылках — у англійскім падрадковым перакладзе. Адным з выдаўцоў кнігі, якая выйшла ў серыі "Цагліны ў славянскую філалогію і гісторыю культуры", з'яўляецца вядомы нямецкі беларусіст Карл Гутшміт, а сярод заснавальнікаў серыі сустракаем прозвішча вядомага нямецкага скарыназнаўца Ганса Ротэ. Кнігу аўтар прысвяціў жонцы Святлане, якая "ў дзяцінстве ўвабрала ў сябе лепшыя рысы беларусаў".

Як гаворыцца ў прадмове, у кнігі будзе працяг. "Асобныя раздзелы яе будуць прысвечаны беларускай літаратуры па-за межамі Беларусі, прозе, паэзіі і драматургіі 70-х, 80-х і пачатку 90-х гадоў, а таксама Рыгору Барадуліну, Міхасю Стральцову і Уладзіміру Арлову". Дай тое, Божа, хутчэй.

І ў канцы — пажаданне. Арыгінальнае даследаванне А. Макміліна варта таго, каб яго перакласці на беларускую мову. Ахвотныя перакладчыкі ўжо знаходзяцца. Толькі хто фінансуе выданне? Можа, "Брытыш Кансл", якому залежыць на публікацыі дасягненняў сваіх суайчыннікаў?!

***Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук*

## БЕЛАРУСКАЯ МЭМУАРЫСТЫКА НА ЭМІГРАЦЫІ / СКЛ. ЛЯВОН ЮРЭВІЧ. НЬЮ-ЁРК: БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА, 1999. 361 с.

Я імгненна жыву, і памру на імгненне,
І ў думцы і ў слове маім аджыву…

*У. Караткевіч*

"Успаміны спадарожнічаюць чалавеку ўсё жыццё, на чужыне — тым больш". "Матэрыялізаваць" іх, увасобіць на старонках кнігі ўзяўся супрацоўнік аддзела рукапісаў Нью-Йоркскай бібліятэкі літаратуразнаўца Лявон Юрэвіч. Аўтар шматлікіх артыкулаў, прысвечаных вядомым беларускім дзеячам культуры і разнастайным тэарэтычным пытанням, на гэты раз выдаў кнігу, якая з'яўляецца лагічным працягам "Архіўнай кнігі", дзе чытач пазнаёміўся з жыццёвым шляхам і літаратурнай спадчынай шасці беларускіх пісьменнікаў далёкага замежжа. Гэтыя ж постаці побач з іншымі нашымі суайчыннікамі — у новай кнізе "Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі". Аўтар-укладальнік, валодаючы "агромністымі, нявыкарыстанымі" багаццямі беларускіх эміграцыйных мемуараў, здаецца, не прэтэндуе на грунтоўнае навуковае даследаванне, падкрэсліваючы, што яго праца з'явіцца толькі "прыступкай" і, магчыма, стымулам і асновай новых грунтоўных даследаванняў. Галоўную задачу сваёй працы аўтар бачыць у тым, каб "даць агляд мемуараў беларускіх эмігрантаў, увесьці ў навуковы ўжытак тыя зь іх, што да гэтага часу заставаліся невядомымі, закласьці асновы біяграфіі й бібліяграфіі беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкі".

Кніга складаецца з дзвюх частак. У першай —"Vita memoria"—мемуарныя

